# NARODNYJA KAZKI



# НАРОДНЫЯ КАЗКІ

ADAM VARŁYHA

# NARODNYJA KAZKI

## pra viedźmaŭ i niačyścikaŭ

Sšytak pieršy

# НАРОДНЫЯ КАЗКІ

## пра ведзьмаў і нячысьцікаў

Сшытак першы

VYDAŃNIE ZARANKA
NEW YORK — 1967

## ŹMIEST



Printed by The Whiteruthenian Press, 452 South Ave., Syracuse N.Y. 13204

# Сынок Янaчка

Жыў дзед і баба. Было ў іх тры дачкі: дзьве зь іх шустрыя, а трэцьцяя спакойная, разважлівая, дык яе празвалі дурной. Быў у іх і маленькі сынок — Янaчка, якога звалі Сынок-Васілёк, за ягоныя васільковыя вочкі. Улетку матка з дачкамі пашла жаць, а бацка пашоў касіць ды ўзяў з сабой Сынка-Янaчку. Каб часам які зьвер не напалохаў ці не пакалечыў, дык бацька ўсадзіў хлопчыка на яблынку, сам адышоўся далей ды стаў касіць. Хлопчык сядзіць на яблынцы, забаўляецца яблычкамі, слухае як птушкі пяюць ды сам падсьвіствае ім, дражніцца зь імі. Аж падыходзе пад яблынку нейкая баба гарбатая, зікратая, нос вялікі гарбаты ды крывы. Яна задрала галаву ўгору на яблынку дый пытае:

— Хлопчык, хлопчык, як ты завешся?

— Сынок-Васілёк!

— Сынок-Васілёк, дай мне яблычак! — просе бабуля.

— На, вазьмі, бабулька — кажа Янaчка, ды кінуў далоў яблычак.

— Я ня бачу, я старая, я сьляпая, — адказвае бабулька: — Дай мне ў руку! —

Янaчка адшчыкнуў яблычак, зьлез трохі ніжэй, падае ёй і кажа:

— На, вазьмі, бабулька!

Баба схапіла, ды не за яблык, але за руку Янaчку, ды сьцягнула яго далоў зь яблынкі, ускінула сабе на плячо ды подбегам у лес. Янaчка стаў плакаць і крычэць:

— Ай, тата, мама!

— Панесьлі мяне!

За высокія горы!

За глыбокія воды!

Колькі Янaчка ні плакаў ні крычэў, дык бацька не пачуў, бо

быў далёка. Гэтая баба была ведзьма. Яна занясла Янанку ў сваю хатку, якая была за высокімі гарамі, за глыбокімі вадамі, у цёмным бары, у лазе на курынай назе. Ведзьма ўссадзіла Янанку на печ ды прывязала аборкай за стоўп.

Калі ўвечары бацька скончыў касіць, дык прышоў да яблынкі, каб забраць Янанку дамоў, аж яго няма на яблынцы. Бацька стаў шукаць яго па кустох і клікаць, але Янанка не аказваўся. Нарэшце бацька пачаў моцна гукаць, але не дакlікаўся Янанкі. Бацька падумаў, што ён сам пашоў дамоў. Але Янанкі й дома ня было. Бацька й матка падумалі, што ён сам ішоў дамоў ды заблудзіў. Яны ўсей сям'ёй пайшлі ў лес шукаць Янанку. Яны шукалі й гукалі, але не знайшлі яго. Дома ўсе доўга плакалі, бо надта шкадавалі Янанку.

На другі дзень старэйшая дзяўчына пайшла шукаць Янанку. Яна некалькі дзён хадзіла па лесе ды шукала яго, аж далёка, далёка ад іхнага дому ў густым спрадвечным бары яна знайшла хатку, а ў хатцы, відаць, паліцца ў печы. Дзяўчына ўвайшла ў тую хатку , а там, разваліўшыся на ўсю печ, ляжыць ведзьма. Ногі яе на печы ў кутку, а галава на стаўпе. На пяколку сядзіць іхны хлопчык Янанка, прывязаны аборкай да стаўпа ды ішча ведзьму. Калі дзяўчына ўвайшла ў хату, дык ведзьма ў яе пытае:

— Дзеўка, дзеўка! Чаго ты прышла?

— Я йшла лесам, пазябла, бачу хатку, а зь яе дымок ідзе, дык я й зайшлася пагрэцца, — адказала дзяўчына.

— Грэйся, грэйся ды пайшчы мяне! — кажа ведзьма.

Дзяўчына пагрэлася ды палезла на печ іскаць ведзьму. Яна ішчучы стала драпаць ды казытаць ейную скуру на галаве, дык ведзьма заснула. Тады дзяўчына адвязала Янанку, узяла яго на рукі ды хуценька — шмык з хаты ды наўцекі. Яна шмат дарогі прыйшла, пакуль ведзьма прачхнулася.

Ведзьма прачхнулася, паглядзела навокал, аж няма ні дзяўчыны ні Янанкі. Ведзьма, нюхаючы, шукаючы, пабегла наўздагон. Ужо на паўдарогі дагнала дзяўчыну з хлопчыкам. Ведзьма дзяўчыну набіла, адабрала хлопчыка й панесла яго ў сваю хатку. Яна ўскінула Янанку на печ і прывязала аборкай за стоўп.

Прыйшла дамоў старэйшая дзяўчына пабітая. Яна расказала дома, што знайшла Янанку й адкрала яго ад ведзьмы, але ведзьма яе дагнала, пабіла й адабрала Янанку. На другі дзень другая дзяўчына стала ладзіцца ў дарогу шукаць Янанку. Яна гэтаксама доўга хадзіла па лесе, пакуль знайшла ведзьміну хатку ў лазе на курынай назе. Яна зайшла ў гэту хатку. Там гэтаксама

печка палілася, а на печцы ляжала ведзьма, распусьціўшы валасы. Тут-жа на пяколку сядзеў іхны Яначка ды іскаў ведзьму. Калі толькі дзяўчына ўвайшла ў хатку, дык ведзьма й пытае:

— Дзяўчына, дзяўчына, чаго ты прыйшла? Ці не па хлапца ты? —

— А не! Я лесам ішла, умарылася, пазябла, бачу дымок з хаткі йдзе, дык я й зайшла пагрэцца, — кажа дзяўчына.

— Грэйся, грэйся, ды пайшчы мяне! — кажа ведзьма.

Дзяўчына пагрэлася ды палезла на печ іскаць ведзьму. Калі яна іскала ведзьму, ды драпала й казытала ў валасох яе, дык ведзьма заснула. Тады дзяўчына адвязала Яначку, схапіла яго ў вахапак ды зь ім, шмык, за дзьверы ды як мага пабегла дамоў. Ведзьма прачхнулася, аж няма тэй дзяўчыны, што прыходзіла грэцца, ні хлопчыка. Яна, чмыхаючы, нюхаючы, пабегла наўздагон за дзяўчынай. Ведзьма дагнала дзяўчыну, адабрала хлапца, а яе пабіла. Дзяўчына пайшла дамоў плачучы. А ведзьма зноў прынесла дамоў хлопчыка, ускінула яго на печ ды прывязала аборкай за стоўп.

Калі прыйшла дамоў ababітая й заплаканая сярэдняя дзяўчына й расказала пра свае прыгоды, як яна хацела Яначку адкрасьці ад ведзьмы, дык пасьля гэтага меншая дзяўчына стала ладзіцца ў дарогу шукаць Яначку. На яе сталі крычэць і лаяць яе старэйшыя сёстры: — Калі мы дужэйшыя й спрытнейшыя не маглі даць рады тэй ведзьме, дык ты пагатове нічога ня зробіш. Яна цябе гатова на сьмерць прыкукшыць. — Старэйшыя сёстры не маглі параканаць меншае, якую звалі дурной. Яна ўзяла з сабой у дарогу торбу, жбанок, глячок і чарапок дый пайшла.

Ідзе яна ды йдзе, аж бача ў лесе каля дарогі кароўка пасецца. Яна й просе:

— Кароўка, кароўка! Дазволь падаіць цябе, тут малачка напіцца й з сабой узяць.

— А падаі сабе, — кажа кароўка.

Яна падаіла кароўку, напілася малачка й з сабой у жбанок набрала.

Ідзе яна ды йдзе, аж бачыць йгрушка ля дарогі расьце. Яна й пытае:

— Ігрушка, ігрушка! Дазволь тваіх ігрушак натрэсьці, тут зьесьці й з сабой узяць.

— А натрасі сабе, — адказала ігрушка.

Яна натрасла йгрушак, тут трохі зьела ды ў торбачку з сабой узяла дый пайшла.

Ідзе яна ды йдзе, аж бача вадзіца з крынічкі каля дарогі ко-

ціцца. Яна й пытае:

— Вадзіца, вадзіца! Ці можна ў табе памыцца, цябе напіцца й цябе з сабой узяць?

— А вазьмі сабе, — сказала вадзіца.

Яна набрала вадзіцы ў глячок, напілася, памылася й пайшла далей.

Ідзе яна ды йдзе, аж бача ля дарогі елачка расьце, а зь яе смаліца цячэ. Яна й просе:

— Елачка, елачка! Дазволь твае смаліцы з сабой узяць.

— А вазьмі сабе, — кажа елачка.

Яна набрала смаліцы ў чарапок ды пайшла далей. Доўга яна хадзіла па лесе, пакуль знайшла ведзьміну хатку, што была ў лазе на курынай назе. Яна адразу ў тую хатку не пайшла. Там за хаткай у лазе была плацянка, у якой белы кот трос сваімі лапамі струшанку ведзьміным козам. Дзяўчына аддала кату малако, ігрушы й вадзіцу, а сама пайшла ў ведзьміну хатку, што была ў лазе на курынай назе. Калі яна ўлезла ў ведзьміну хатку, дык убачыла, што ведзьма ляжала расьцягнуўшыся на ўсю печ, а Яначка прывязаны за стоўп, сядзіць на пяколку ды ішча ведзьму. Калі дзяўчына толькі ўлезла ў хатку, дык ведзьма й пытае:

— Чаго ты прыйшла, дзяўчына? Ці не па хлапца ты?

— А не! Я лесам ішла, пазябла, бачу з хаты дымок коціцца, дык зайшлася пагрэцца.

— Грэйся, грэйся, ды пайшчы мяне, — кажа ведзьма.

Калі дзяўчына грэлася перад печчу, дык хуценька выняла чарапок з смалой ды паставіла ў печ за бок, а потым палезла на печ іскаць ведзьму. Шукаючы ў галаве ведзьмы, яна драпала й казытала ў валасох яе, дык ведзьма заснула. Тады дзяўчына дастала смалу зь печы ды засмаліла ведзьме вочы. Потым адвязала Яначку ды ціханька выйшла з хаткі. Белы кот паказаў ёй новую блізкую дарогу. Дзяўчына ўзяла Яначку на плечы ды барджджэй пайшла дахаты.

Прачхнулася ведзьма, хоча пабачыць ці ёсьць Яначка, але вачэй не расплюшча.Яна стала злазіць зь печы дый гопнула аб корч, на які ступалі, калі лезьлі на печ. Калі яна ўстала, дык абмарочылася й доўгі час не магла знайсьці дзьвярэй у сваей хаце. Нарэшце неяк вобмацкам знайшла дзьверы ды вылезла з хаты, але ўбілася ў куст калючай шыпшыны. Нарэшце яна стала прыслухоўвацца ды пачула, нешта шастае, а гэта ейны белы кот трос струшанку для ейных козаў у пляцянцы. Яна стэсам кінулася ды ўзьбілася на куст калючай ажыны. Тут яна яшчэ горай паабдзіралася. Нарэшце, мацаючы, прыслухоўваючыся,

прыпаўзла ў плацянку, дзе белы кот трос струшанку козам ды на ўвесь лес заскаголіла:

— Ай, коця-лебедзь!

— Прадзяры вочкі!

— Даганю дзеўку!

— Адбяру хлапца!

— Пастой, малачко зьем, — адказвае кот.

А ведзьма зноў лемянтуе:

— Ай, коця-лебедзь!

— Прадзяры вочкі!

— Даганю дзеўку!

— Адбяру хлапца!

— Пастой, ігрушкі зьем, — адказвае кот.

А ведзьма зноў раве:

— Ай, коця-лебедзь!

— Прадзяры вочкі!

— Даганю дзеўку!

— Адбяру хлапца!

— Пастой, вадзіцы нап'юся, — адклікаецца кот.

А ведзьма зноў раве:

— Ай, коця-лебедзь!

— Прадзяры вочкі!

— Даганю дзеўку!

— Адбяру хлапца!

— Пастой, памыюся, — адклікаецца кот.

А ведзьма зноў галёкае:

— Ай, коця-лебедзь!

— Прадзяры вочкі!

— Даганю дзеўку!

— Адбяру хлапца!

Кот выхляптаў малачко, зьеў ігрушкі, напіўся, памыўся, а тады стаў ведзьме прадзіраць вочы. Кот сваімі вострымі капцюрамі перш дзёр, адно вока, а потым другое. Пакуль ён папрадзіраў ведзьме вочы, дык зусім скрываваіў увесь ейны твар. Калі кот прадзёр ведзьме вочы, дык яна пабегла даганяць дзяўчыну з хлопчыкам тэй дарогай, што й папярэднія разы даганяла. Яна бегла адвячорак і ноч. Настаў і другі дзень, а яна ўсё бяжыць, але дзяўчыны не даганяе. Бача ведзьма, пры дарозе елачка расьце, а зь яе смаліца цячэ. Яна й пытае:

— Смала, смала! Ці ня бачыла ты дзеўкі йдучы, хлапца нясучы?

— А ня бачыла, — адказала смаліца.

Ведзьма пабегла далей, аж бача ля дарогі крынічка цячэ. Яна й пытае:

— Вада, вада! Ці ня бачыла ты дзеўкі йдучы, хлапца нясучы?

— А ня бачыла, — адказала вадзіца.

Ведзьма пабегла далей. Бяжыць яна ды бяжыць, аж бача ля дарогі ігруша расьце. Яна й пытае:

— Ігруша, ігруша! Ці ня бачыла ты дзеўкі йдучы, хлапца нясучы?

— А ня бачыла, — адказала ігруша.

Ведзьма пабегла яшчэ далей, аж бача ля дарогі карова пасецца. Яна й пытае:

— Карова, карова! Ці ня бачыла ты дзеўкі йдучы, хлапца нясучы?

— А ня бачыла, — адказала кароўка.

Ведзьма вярнулася назад да сваей хаты, ды нюхаючы, стала іншых дарог шукаць. Пакуль яна знайшла тую дарогу, па якой дзяўчына Яначку нясла дамоў, дык дзяўчына зь Яначкам была ўжо дома ў сваей хаце.

Калі меншая дзяўчына прынесла дамоў Яначку, дык дома ўсе моцна ўсьцешыліся. Бацькі дзівіліся, як гэта магло стацца, што сьмелыя, дужыя й спрытныя дзяўчаты не маглі ад ведзьмы адкрасьці Яначкі, а меншая, слабая й нясьмелая, што звалі ціхоняй і дурной, гэтак спрытна змагла ашукаць ведзьму ды адкрасьці Яначку.

Пасьля гэтага, калі ўсе выходзілі з хаты, дык Яначкі з сабой ня бралі ні на поле, ні ў лес. Яго пакідалі дома, і прыказвалі з хаты ня выходзіць і нікому чужому не адпіраць дзьвярэй.

Аднаго разу восеняй усе старэйшыя пайшлі, хто ў грыбы, а хто ў ягады. Яначку аднаго пакінулі дома. Загадалі яму запёрціся на глухую закрутку ды нікога чужога ня пускаць у хату. Калі Яначка ля ваконца гуляў з сваімі цацкамі, дык убачыў, што да ваконца йдзе старэнькая бабулька — старчыха, абчэпленая торбамі. Яна просе, каб Яначка адчыніў вакно й падаў жару з копкі. Яначка кажа, што яму забаранілі акно адчыняць. Яна выняла чарапок з торбы ды з плачам просе, каб Яначка падаў ей жару з копкі, бо ўжо тры дні, як яе печка ня палена, і ей няма на чым стравы зварыць, а яна галодная. Баба стала плакаць. Яначку стала шкода старэнькай бабулькі, дык ён стаў адчыняць ваконца, каб узяць чарапок ды падаць ей жару з копкі. А гэта баба, цап яго за руку, а другой рукой шырака адчыніла вакно дый выцягнула яго з хаты. Толькі цяпер Яначка пазнаў, што гэта тая самая ведзьма, што перш яго крала. Ведзьма ўкінула

Янaчку ў мяшок дый панесла ў лес. Ён і плакаў і крычэў, але ніхто не пачуў.

Ведзьма занесла Янaчку да сваей хаткі, якая была ў лазе на курынай назе, але не пакінула яго там жыць, бо й сама тут не заставалася. Яна села на зялезную ступу, узяла з сабой і Янaчку, ды паехала да сваей сястры Кіеўскай Ведзьмы. У тэй ведзьмінай сястры, Кіеўскай Ведзьмы была дачка Магдаленка. Ведзьмы загадалі Магдаленцы гуляць зь Янaчкам і пільнаваць, каб ён ня ўцёк. А калі Янaчка трохі падгадуецца, дык ведзьмы яго сасмажаць ды зьядуць.

Прайшло некалькі гадоў. Янaчка акрыяў і падрос. Аднаго разу ведзьмы выходзілі на Лысую Гару да чартоў на ігрышча, а Магдаленцы загадалі сасмажыць Янaчку ім на вячэру, калі яны прыйдуць зь ігрышча. Магдаленка напаліла печ дачырвана, а потым прыходзе да Янaчкі дый кажа:

— Давай, Янaчка, будзем гуляць у шуха! —

— Я ня ведаю як гэта гуляць у шуха, — кажа Янaчка.

Магдаленка падцягнула стол да прыпечку, палажыла на ім лапату, што хлеб садзіць у печ, палажыла пад цаўё лапаты катунок дый кажа:

— Ты, Янaчка, ляж на лапаце, закрый рукамі вочы, а я цябе: "Шух у печ, шух — зь печы! Шух — у печ, шух — зь печы!"

Янaчка кладзе ногі на лапату. А калі Магдаленка скажа, што ня гэтак, дык ён галаву паложа на лапату, то поперак ляжа. Калі Магдаленка доўгі час зь ім прамуштравалася, дык ён і кажа:

— Я ня ведаю, як класьціся. Пакажы мне як!

Тады Магдаленка лягла на лапату, скруцілася ў клубок, што каленкі прытыкаліся да носу, і рукамі закрыла вочы дый кажа:

— Во, гэтак!

А Янaчка ў гэты час катнуў лапату з Магдаленкай па катунку ў печ дый прамовіў:

— Шух — у печ перапеч!

Янaчка засланіў печ зялезнай засланкай, а засланку падпёр лапатай. Тады ён запёр зь сярэдзіны дзьверы ў сенцах і заваліў іх завалай, а сам прадзёр страху ў сенцах ды вылез на дах. Там ля самай хаткі рос вялікі дуб. Ён з даху ўзьлез на той дуб на самы верх ды ціхінька сядзіць.

Калі галодныя ведзьмы йшлі з чартоўскага йгрышча, дык, падыйшоўшы пад хатку, сталі насамі чмыхаць і пацяшацца: "Сьвежанінкай пахне!" Яны сталі ў дзьверы стукаць, але ніхто ня выйшаў ім адчыняць. Нарэшце старэйшая ведзьма загаманіла: "Магдаленка, дачушка! Адчыніся, адваліся!" Ведзьмы стукалі

й крычэлі, але Магдаленка не адчыняла. Ведзьмы выламалі дзьверы, аж у хаце няма Магдаленкі.Ейная маці-ведзьма й кажа:

— Ах, жаба! Відаць і яна ўжо да чарцянят на йгрышча панясласся!

Ведзьмы дасталі зь печы сьвежаніну ды сталі есьці. Калі маці Магдаленкі грызла руку, дык на пальцы знайшла Магдаленчын пярсьцёнак. Тады яна й кажа:

— Малайчына, мая дачушка! Пярсьцёначкам падманіла таго дурня.

Ведзьмы, як ваўкі, пааб'ядаліся сьвежанінай і вышлі на панадворак качацца. Ведзьма, цётка Магдаленкі, кажа:

— Павалюся, пакачуся, Яначкавага мяса наеўшыся! — дый пакацілася.

— Паваліся, пакаціся, Магдаленчынага мяса наеўшыся! — з дубу чуецца голас.

Ведзьма, маці Магдаленчына, кажа:

— Павалюся, пакачуся, Яначкавага мяса наеўшыся! —

— Паваліся, пакаціся, Магдаленчынага мяса наеўшыся! — з дубу чуецца голас.

Ведзьма — матка Магдаленкі — стала прыслухацца й кажа:

— Там нейкая благая птушка шваргоча. — Тады ўжо сьвітала, і птушкі пачыналі пець. А далей гэта ведзьма стала ўзірацца на дуб ды калі залемянтуе "Ах, ты, нягоднік! Гэта-ж ты маю дачушку засмажыў!" Ды як кінецца да дубу ды давай яго грызьці! Яна грызла, грызла дуб, аж пакуль зубы патупіліся, і болей ня можа грызьці. Ведзьма пабегла да каваля й кажа: "Каваль, каваль, накуй мне зубы! Я табе дам сыр і пірог!" Каваль накаваў ведзьме зубы. Яна прыбегла да дубу ды йзноў стала яго грызьці. Ужо з палавіну дуба падгрызла, і дуб пачынае ад ветру хістацца. Яначка плача на дубе, баіцца, бо калі ведзьма згрызе дуб, дык зьесьць яго. Яначка бача, што гусі лятуць з выраю, дык ён і просіць іх:

— Ай, гусі, гусі!
— Ды зь белай рысьсю!
— Вазьмеце мяне!
— Панясеце мяне!
— К тату, к маме!
— У таты, у мамы!
— Карыта вады наліта!
— Карыта аўса насыпана!
— Будзеце піць і есьці!

Паляцелі гусі й не ўзялі Яначкі. У ведзьмы йзноў зубы пату-

піліся. Яна йзноў пабегла да каваля й кажа: "Каваль, каваль, накуй мне зуб! Я табе дам сыр і пірог!" Каваль накаваў ведзьме зубы. Яна прыбегла да дубу ды йзноў стала яго грызьці. Дуб стаў ужо зусім хістацца. Здаецца, вось, вось абваліцца. Яначка баіцца і плача. Ён бача лятуць другія гусі з выраю. Ён просіць і гэтых гусей:

— Ай, гусі, гусі!
— Ды зь белай рысьсю!
— Вазьмеце мяне!
— Панясеце мяне!
— К тату, к маме!
— У таты, у мамы!
— Карыта вады наліта!
— Карыта аўса насыпана!
— Будзеце піць і есьці!

Гусі, як ляцелі, трохі апусьціліся над дубам, падхапілі Яначку дый панесьлі. А вецер, як павеяў, дык дуб абваліўся ды забіў абедзьвюх ведзьмаў.

Гусі занесьлі Яначку аж на бацькаву аселіцу й там апусьціліся. Бацька, маці й сёстры надта ўсьцешыліся, што Яначка вярнуўся. Яны панасыпалі гусям аўса, ячменю ды паналівалі карыты чыстай крынічнай вады. Гусі наеліся, напіліся, выкупаліся ў чыстай вадзе ды паляцелі на балота гнёзды рабіць.

Яначка застаўся назаўсёды жыць дома, і ніякіх ведзьмаў ужо не баяўся.

# Галубок

Жылі дзед і баба. У іх было двое дзяцей — хлопчык і дзяўчынка. Баба памёрла. Дзед ажаніўся і ўзяў ведзьму з дачкой. Мачышына дачка крыўдзіла дзедаву дачку, ейны брат бараніў сваю сястру. Мачыха й ейная дачка ўзьненавідзелі гэтага хлопчыка. Мачыха-ведзьма дамагалася ад дзеда, каб ён страціў гэтага хлопчыка. Дзед доўга праціваўся, але нарэшце згадзіўся. Ён з плачам павёў хлопчыка ў лес. Бацька загадаў хлопчыку ўзьлезьці на

высокае дрэва дый кажа:

— Скок, сынку!

— Баюся, татку!

— Скок, сынку!

— Баюся, татку!

— Скок, сынку!

Хлопчык скокнуў, ударыўся аб калоду й забіўся. Бацька ўзяў хлопчыка на рукі ды, плачучы, прынёс яго дамоў, палажыў няжывога хлопчыка на лаве ды прамовіў да жонкі: "На, еж, калі ты дамагалася ягонай сьмерці". А сам вышаў з хаты дыў пайшоў у сьвет. Ведзьма з сваей дачкой зьелі гэтага хлопчыка, а косьці павыкідалі вон праз вакно. Сястрыца хлопчыка сядзела на прызьбе ды плакала. Яна пазьбірала братавы костачкі, увязала іх у хустачку, палажыла ў скрыначку ды ў ямачку закапала. На другі дзень яна адкапала тую скрыначку й паглядзела костачак, аж яны перарабіліся ў мучыцу. Яна зноў закапала. На трэці дзень яна адкапала ды паглядзела гэтых костачак, аж тая мучыца зьляпілася ў камячок, як паўяечка. На чацьверты дзень яна паглядзела гэтую скрыначку, аж паўяечка перарабілася ў кругленькае яечка. А калі на пяты дзень яна адкапала тую скрыначку, аж там сядзіць сіненькі прыгожанькі галубок. Гэты галубок пырхнуў і паляцеў. Калі ён лётаў над лясамі, палямі й дарогамі, дык убачыў на дарозе двух жарнаклёваў, якія йшлі дарогай і несьлі па два малаточкі. Ён і кажа: "Жарнаклёвы, жарнаклёвы! Дайце мне па малаточку!" Жарнаклёвы далі яму два малаточкі. Ён узяў тыя малаточкі, ды паляцеў зь імі да сваей хаткі. Ён сеў на самым версе даху й запеў:

— А быў-жа я сірацінкай!

— Мяне ведзьмы загубілі!

— Параскідалі мае костачкі!

— А сястрыца саборніца

— Пазьбірала мае костачкі,

— У хустачку ўвязала.

— У скрыначку палажыла!

— Ды ў ямачку закапала!

— А быў-жа я полым яйцом!

— А быў-жа я цэлым яйцом!

— А цяпер-жа я сяджу!

— Сінюсенькім галубцом!

Ведзьма кажа да сваей дачкі: "Якая там благая птушка шваргоча? Бяжы, дачушка, прагані яе!" Дачка выскачыла з хаты, схапіла нейкі паскалак ды як закрычыць: "Ашыш, ястрабец!

Ашыш, каршунец!“ Ды як кіне нейкім паскалакам на яго! А галубок як кіне малаточкам — ды проста ў лоб ведзьмінай дачцэ, дык і забіў. Выскаквае сама ведзьма з паленам ды як зараве: ”Ах ты, нягоднік! Гэта-ж ты маю дачушку забіў!“ Ды намерылася кінуць паленам на яго. А ён як кіне другім малаточкам — ды проста ведзьме ў галаву, дык і забіў. У гэтай хатцы пры ляску засталіся жыць галубок з сваей сястрыцай.

# Тры Сястры

З краю вялікай пушчы стаяла хатка. У гэтай хатцы жыла ўдава з трыма дочкамі. Дзьве старэйшыя былі спрытнейшыя й рухавыя дзяўчыны, а меншая ціхая, спакойная, кволенькая. Меншая дзяўчына надта шкадавала сваю маму, а мама яе. Матка купіла дзьвюм старэйшым дзяўчынкам па срыбным кубачку, меншай сваей улюбёнай дзяўчынцы купіла залаты кубачак. Гэтыя тры дзяўчынкі хадзілі ў лес у ягады. Старэйшыя дзяўчынкі зьбіралі ягады ды елі, а меншая зьбірала ягады ў свой залаценькі кубачак ды прыносіла маме. А мама яшчэ болей яе шкадавала. Старэйшым дзяўчатам было зайздросна, што мама болей шкадавала меншую дачушку, а гэтаксама яны зайздравалі, што ейны кубачак быў аздабнейшы. Яны наважылі страціць сваю маленькую сястрыцу.

Аднаго разу ўсе тры дзяўчынкі пайшлі ў лес ягады зьбіраць. Калі яны адыйшліся далёка ў лес, дык старэйшыя адабралі ў меншай дзяўчынкі ейны залаценькі кубачак зь ягадамі, а яе самую забілі ды пахавалі ў лесе, а на ейнай магілцы насыпалі курганок. Калі старэйшыя дзяўчаты прыйшлі дамоў, дык сказалі маме, што меншая іхная сястра не захацела зь імі разам хадзіць, але адна пайшла ў лес і не вярнулася да іх. Мама пайшла ў лес шукаць сваю пястушку. Яна гукала й клікала яе, але надарма: яна не знайшла сваей любай дачушкі.

Аднаго разу йшоў праз лес музыка зь іскрыпкай. Ён бача нейкі курганок у лесе. Музыка сеў на гэтым курганку ды стаў іграць на сваей іскрыпцы. Калі толькі ён зайграў, дык як-бы з-пад зямлі чуе кволенькі галасок:

— Зайграй, зайграй, мой музычка!
— Мяне сёстры загубілі!
— За чырвоненькія ягодачкі!
— За залаценькі кубачак!

Калі музыка другі раз зайграў, дык ізноў пачуўся той самы галасок. Музыку стала дзіўна й боязна. Ён устаў, забраў сваю іскрыпку й пайшоў на поле.

Тут-жа на ўскраі лесу стаяла хатка. Музыка зайшоўся ў гэтую хатку. Тут жыла кабеціна зь дзьвюма дзяўчынамі. Музыка пачаў апавядаць пра сваю нядаўную прыгоду ў лесе: "Я гэтак іду сабе лесам, і захацелася мне адпачыць. Я там сеў на курганок дый зайграў. Аж чую як-бы з-пад зямлі кволенькі галасок:

— Зайграй, зайграй, мой музычка!
— Мяне сёстры загубілі!
— За чырвоненькія ягодачкі!
— За залаценькі кубачак!

Калі толькі музыка пачаў апавядаць пра сваю прыгоду ў лесе, дык дзяўчаты пачалі мяняцца ў твары: то чырванеюць, то бялеюць, то сінеюць. Нарэшце панапужаліся ды адна за аднэй — скакель — за парог дый пабеглі ў лес. Маці папрасіла музыку, каб ён паказаў той курганок у лесе, дзе ён іграў. Калі музыка сеў на курганок дый зайграў, дык ізноў пачуўся той самы кволенькі галасок:

— Зайграй, зайграй, мой музычка!
— Мяне сёстры загубілі!
— За чырвоненькія ягодачкі!
— За залаценькі кубачак!

Матка адразу пазнала галасок сваей улюбёнай дачушкі. Яна раскапала гэты гурбок, аж там ляжыць няжывая ейная дачушка. Матка дастала яе, памыла, надзела ёй гожую сукеначку, палажыла ў трунaчку ды ізноў закапала.

А тыя старэйшыя дзяўчаты, як панесьліся ў лес, дык і не вярнуліся. Яны пабеглі ў лес да ведзьмы. Там яны сталі прыслугоўваць ей, ды вучыцца ад яе вядзьмарскага знахарства й чараў. А калі яны вырасьлі, дык сталі сапраўднымі ведзьмамі й шкодзілі людзям.

***

# Kaza-Rysia

Žyŭ dzied i baba. Była ŭ jich adna dačka. Z statku była adna karoŭka. Baba pamiorła. Dzied ažaniŭsia i ŭziaŭ viedźmu z dačkoj. Mačycha svaju dačku lubiła, a dziedavu nienavidzieła. Mačycha budziła rana dziedavu dučku dajić karoŭku dy hnać jaje na pašu. Dziaŭčynka-sirotka nadta lubiła j škadavała svaju karoŭku. Karoŭka hetaksama škadavała dziaŭčynku. Karoŭka ranicaj chutka napasiecca j laža kala dziaŭčynki. Karoŭka lažyć, žvaku žvie dy chukaje na dziaŭčyny bosieńkija nožki, a dziaŭčynka śpić, adpočyvaje, bo doma mačycha nie daje spać, ale zahadvaje jej rabić roznuju ciažkuju rabotu. Mačycha chacieła zusim prahnać z chaty dziaŭčynku-siratu, ale ni mačycha ni jejnaja dačka nie mahli ni padajić, ni paścić hetaj karoŭki. Kali tolki mačycha ci jejnaja dačka padojduć da hetaj karoŭki, dyk karoŭka sovajecca baścisia, nastaviŭšy rohi. Adnaho razu karoŭka chacieła zakałoć mačyšynu dačku, kali-b dziedava dačka nie abaraniła jaje.

Mačycha stała namaŭlać dzieda, kab zarezać karoŭku. Dzied zhadziŭsia na heta. Adnaho razu dziaŭčynka pahnała paścić karoŭku. Jana pasie j płača, a karoŭka ŭ jaje pytaje:

— Dzieŭka-dziavica, rusa-kasica! Čaho ty płačaš?

— Maja karoŭka, maja daraženkaja, jak-ža mnie nia płakać, ty-ž nia viedaješ, što ciabie chočuć zarezać, — kaža dziaŭčynka.

— Takoj biady, niachaj režuć, — adkazała karoŭka: — kali mianie zarežuć, dyk ciabie pašluć na rečku myć maje trybuchi. Kali budzieš myć, dyk u pravym trybuchu znajdzieš dva ziarniatki: adno srybnaje j adno załatoje. Kali ty prydzieš z rečki, dyk budzie ŭžo pozna, budzie ciamna. Ty nie zachodźsia ŭ chatu, a pasadzi ziarniatki na dvarą pad kutam svaje chaty. Z hetych ziarniatak vyraście sad kala vašaj chaty. Na jabłynach hetaha sadu buduć raści załatyja j srybnyja jabłyki. —

Jak kazała karoŭka, hetak i stałasia. Na druhi dzień zarezali karoŭku, dziaŭčynku pasłali na rečku myć trybuchi. Jana ŭ pravym trybuchu znajšła dva ziarniatki: adno załatoje j adno srybnaje. Pakul dziaŭčynka zakončyła svaju rabotu, dyk stała ŭžo ciomna. Dziaŭčynka pryšła damoŭ pozna j pryniesła, najdzienyja ŭ trybuchu ziarniatki. Jana hetyja ziarniatki pasadziła pad kutam chaty, a potym pryšła ŭ chatu, raździełasia dy lahła spać.

Kali na druhi dzień paŭstavali, dyk nia vierać svajim vačom:

naŭkoła jichnaj chaty raście vialiki j pryhožy sad, a na jabłynach hetaha sadu załatyja j srybnyja jabłyki.

Adnaho razu mačycha j abiedźvie dziačyny siadzieli kala chaty na pryźbie. U hety čas małady bahaty kniaź jechaŭ na palavańnie i ŭbačyŭ hety cudoŭny sad. Jon padjechaŭ da pryzby dyj kaža: "Katoraja dziaŭčyna vyščyknie j padaść mnie hetych cudoŭnych jabłykaŭ, dyk ja tuju dziaŭčynu zamuž vaźmu." Jak pačuła heta mačycha, dyk jana j kaža da svajej dački: "Biažy, maja dačuška, vyščykni hetamu panu jabłykaŭ, dyk jon ciabie zamuž voźmie". Viedźmina dačka schapiła košyk dy pabiehła da jabłyny, kab dla pana vyščyknuć jabłykaŭ. Kali tolki jana padojdzie da jabłyny, kab vyščyknuć jabłykaŭ, dyk suki padymajucca ŭhoru, i hetak pad kožnaj jabłynaj. Sučča hetych jabłynaŭ paabdzirała jej tvar i ruki, i jana nie mahła nivodnaha jabłyka vyščyknuć, dy gavylučy (płačučy) z pustym košykam pryšła nazad da pryzby. Tady viedźma kaža na dziedavu dačku: "Jidzi niaŭčosa, jidzi niaŭmyja, vyščykni hetamu panu jabłykaŭ, dyk moža jon ciabie zamuž voźmie?" Dziaŭčynka-sirotka ŭziała košyk i pabiehła da jabłynak. Kali jana tolki padyšła da sadu, dyk jabłynki nizka paapuskali sučča. Jana naščypała poŭny košyk jabłykaŭ dy paniasła j addała kniaziu. Kniaź padziakavaŭ dziaŭčynie za jabłyki dy adjaždžajučy skazaŭ, što śpiarša pryšle ŭbory dla svajej maładoj, a potym pryjedzie z viasiellem pa svaju maładuju.

Kali kniaź prysłaŭ ubory dla svajej maładoj, dyk viedźma zabrała jich i schavała dla svajej dački. A kali kniaź mieŭsia pryjechać ź viasiellem pa svaju maładuju, dyk viedźma ŭ hetyja ŭbory stała prybirać svaju dačku, a dziedavu dačku pasadziła ŭ zastaronak dy zakaciła kałodami. Ubory, jakija prysłaŭ kniaź, nie padychodzili dla viedźminaj dački. Sukienka była zašyraka, dyk jana svajej dačce pałažyła u zapazuchu dźvie cegliny. Čaraviki byli karotkija, dyk jana svajej dačce palcaŭ na nahach paŭsiakała. Kali pryjechaŭ kniaź z viasiellem pa svaju maładuju, dyk viedźma vyvieła da jaho svaju dačku, ubranuju ŭ tyja ŭbory, što prysłaŭ kniaź. Kniaź adrazu paznaŭ, što heta nia taja dziaŭčyna, što jamu jabłyki prynosiła, ale zaprasiŭ prajścisia kala sadu. Kali jany jšli darožkaj kala sadu, dyk kniaź zaŭvažyŭ, što dziaŭčyna karadzicca na nohi. Jon byccam niaŭmyśla ŭstupiŭ jej na nahu, a jana, kali rvanie nahu, dyk i vyrvała z svajho chadačka, až u jaje palcy paŭsiakanyja, a ŭ chadačku kroŭ, a cegła ŭ zapazusie parazjaždžałasia na baki. Kniaź tady viarnuŭsia da chaty j zahadaŭ mačysie, kab pakazała druhuju dziaŭčynu. Viedźma śpiarša adkazvałasia, što taja dziačyna pamaŭźlivaja, usiudy samavolna chodzie, — i jana nia viedaje kudy ciapier taja

dziaŭčyna pašła. Kniaź paznaŭ, što viedźma manić, i prymusiŭ jaje pakazać tuju dziaŭčynu. Viedźma pryznałasia, što dziaŭčyna ŭ zastaronku zavalena biarvieńniem. Kniaź zahadaŭ adviarnuć biarvieńnie j dastać dziaŭčynu. Tady dziaŭčynu dastali z zastaronku i ŭbrali ŭ viasielnyja ŭbory. Kali kniaź z svajej maładoj sieli ŭ karetu, a družyna pasieła na koni dy ŭsio viasielle stała vyjaždžać z dvara, dyk i sad z załatymi j srybnymi jabłykami staŭ ruchacca śledam za viasiellem. Mačycha z svajej dačkoj vyskačyli začyniać varoty, kab nia puścić taho sadu, ale sad tolki jich paabdziraŭ svajim suččam i varoty vyłamaŭ dyj pajšoŭ za viasiellem u kniaziaŭ dvor.

Dziedava dačka vyšła zamuž za bahataha kniazia j žyła ŭ vyhadzie. Praz niejki čas ŭ jaje radziŭsia synok. Jana stała nudzicca pa svajim stareńkim baćku j zachcieła pryjechać adviedać jaho. Kniaź z žonkaj i synkom sieli ŭ karetu j pryjechali da dzieda. Jany pryjechali da baćki j razdali bahatyja padarunki baćku, mačysie j jejnaj dačce. Baćka nie tak byŭ rad hetamu padarunku, jak tamu, što ŭbačyŭ svaju dačku, ziacia j maleńkaha ŭnučka.

Mačycha, jak-by zabyłasia na papiaredniuju varožaść, a staviłasia vietliva j prychilna. Byccam, kab dahadzić maładoj pani, a byłoj svajej padčyrycy, taho-ž samaha dnia pabiehła j napaliła łaźniu, kab z darohi paparyć i vykupać hościu. Hościa śpiarša admaŭlałasia ad hetaj łaźni, ale kab zrabić mačysie łasku, kab nie paličyli jaje hanarlivaj, dyk zhadziłasia pajści ŭ łaźniu. Mačycha paprasiła hościu leźci na pałok u łaźni, a sama ŭziałasia jaje pachvastać. Kali mačycha linuła vady na piečku, dyk hościa ad vialikaha duchu lahła na pałku j vočy zakryła, a mačycha chvastanuła niekalki razoŭ niejkim miakkim vienikam. Pośla hetaha hościa zvaliłasia dałoŭ z pałka dy stała pieravaračvacca ŭ roznych źviaroŭ: u vaŭka, lisa, miadźviedzia, a tady ŭ dzikuju kazu. Heta kaza ŭdaryła rahami ŭ dźviercy łaźni, vyskačyła von dy nakiravałasia da lesu, a pierad lesam pieratvaryłasia ŭ rysia dy j paskakała pa viarchoch lesu.

Kali stary baćka z maładym kniaziem siadzieli ŭ chacie za stałom i hamanili, dyk pačuli niejki šum, jak-by ad vialikaha vichru. Jany zirnuli ŭ vakno, až, adkul ni vaźmisia, z-pad jichnaj łaźni dzikaja kaza šparka biažyć da lesu. Raptam kaza źnikła, a, adkul ni vaźmisia, ryś staŭ pieraskakvać z dreva na dreva j niejdzie schavaŭsia ŭ lesie.

Nieŭzabavie ŭbiahaje ŭ chatu mačycha dy jak-by z pierapudu pačynaje apaviadać: "Pani raździełasia j palezła na pałok, a ja heta sabie pamału razdziajusia, parusia, až čuju nie̋šta hopnuła z pałka. A pakul ja ahledziłasia, až baču dzikaja kaza ŭdaryłasia ŭ dźviery. Dźviery adčynilisia, a jana skok! praz paroh i paniesłasia da lesu. Ja stała razhladacca, až majej pani nihdzie niama. A tolki ja zabrała

j niasu jejnuju adziežu". Mužčyny stali biedavać i dzivicca, što heta mahło stacca. Stała raźvidniacca, pračchnuŭsia maładzion i staŭ płakać, bo ŭžo jeŝci zachacieŭ.

Pan skazaŭ svajmu churmanu zaprahać koni, a sam uziaŭ svajho maleńkaha chłopčyka, uviarcieŭ jaho ŭ chutru j pajechaŭ da lesu. Kali dajechali da lesu, dyk skazaŭ churmanu spynicca j čakać tut jaho, pakul viernięcca. Pan ŭziaŭ chłopčyka dy pajšoŭ u les. Tam u lesie staŭ klikać svaju žonku:

— Ka-za-a-a-a ry-sia-a-a!

— Ad-klik-ni-sia-a-a-a!

— Ma-ła-dzion pła-ča-a-a!

— Jeś-ci-i cho-ča-a-a!

Ź lesu čujecca hołas:

— Bia-hu-u-u, ucia-ku-u-u!

— Pia-sok voč-ki-i!

— Za-sy-pa-je!

— Ra-sa nož-ki-i-i!

— Pad-my-va-je!

— Bia-hu-u-u, ucia-ku-u-u!

Prybiahaje panskaja žonka dzikaj kazoj, a potym pačarzie pieratvarajecca ŭ roznych źviaroŭ, a narešcie ŭ kabiecinu. Tady mužyk nakidaje na jaje svaju chutru j daje jej ŭ ruki dzicia. Jana dzicia pakormie, całuje jaho, pialehvaje, a narešcie pieradaje dzicia mužyku, dy pačarzie pieravaračvajecca ŭ roznych źviaroŭ, a narešcie ŭ kazu dyj biažyć ŭ les. Tady mužyk z dziciem idzie da churmana sadzicca ŭ karetu dy jedzie dachaty. I hetak na dzień niekalki razoŭ: kali dzicia zachoča jeści dy stanie płakać, dyk pan biare dzicia dy z churmanom jedzie da lesu, a tam idzie ŭ les, vyklikaje žonku. Žonka hetkimi samymi słovami adklikajecca, prybiahaje da muža, pakormie dzicia, a kali dzicia naśsiecca, dyk addaje jaho mužu, a sama biažyć iznoŭ u les.

Ab hetaj niaščasnaj pryhodzie pan pažaliŭsia svajmu churmanu. Hety churman viedaŭ čaraŭnickija chitryki. Jon skazaŭ panu, što ŭ tej łaźni niehdzie jość zachovany čaraŭnicki vienik z źviarynych chvastoŭ, jakim viedźma chvastała panskuju žonku. Treba toj vienik znajści j spalić ŭ tyja časy, kali panskaja žonka prybiažyć karmić dzicia j budzie pieraviarnuŭšysia ŭ žančynu, jakoj była j pierš, jana hetkaj zastaniecca nazaŭsiody. A viedźmaŭ, jakija nakinuli hetyja čary, u tuju chviliu skrucie ŭ try pahibieli, i jany ŭ toj čas skvitujucca ŭ strašnych pakutach. Ale treba pilnavacca, kab nia vypuścić u toj čas kniazievaj žonki z ruk, bo jana nie svajej siłaj, ale siłaj čaraŭ budzie rvacca z ruk, kab uciačy ŭ les, kali buduć hetyja chvasty

hareć. A kali jana hetym časam uciače ŭ les, dyk užo nikoli nia viernięcca da ludziej, kolki-b jaje ni klikali.

Kniazieŭ churman pajšoŭ u tuju łaźniu j znajšoŭ pad pałkom u piačurcy vienik ź zviarynych chvastoŭ. Jon hety vienik uziaŭ dy schavaŭ u lesie za kałodaj.

Kali maładzion zachacieŭ ješci dy staŭ płakać, dyk churman zaproh koni dy pavioz kniazia da lesu. Kniaź źlez z karety dy pajšoŭ klikać žonku, a churman pryviazaŭ koni dy pajšoŭ ahoń raskładać.

Kniaź, pryjšoŭšy ŭ les, staŭ, jak i pierš, klikać žonku:

— Ka-za-a-a ry-sia-a-a!

— Ad-klik-ni-sia-a-a-a!

— Ma-ła-dzio-o-on pła-ča-a-a!

— Jeś-ci-i-i cho-o-ča!

Ad matki, jak i pierš, čujecca hołas:

— Bia-hu-u-u, ucia-ku-u-u!

— Pia-so-o-ok voč-ki-i!

— Za-sy-pa-je!

— Ra-sa nož-ki-i!

— Vy-my-va-je-e!

— Bia-hu-u-u, ucia-ku-u-u!

Prybiehła žonka kazoj i stała pieratvaracca ŭ roznych źviaroŭ, a nareščie pieratvaryłasia ŭ samuju siabie. Jana ŭziała na ruki maładziona, stała jaho pieścić, całavać dyj karmić hrudźmi. Kormiačy dzicia, jana paviała nosam dyj kaža: "Niejkije smalińni śmiardziać". "Heta ŭ vioscy parsiukoŭ smalać", adkazvaje muž. A ŭ hety čas churman uskinuŭ vienik z chvastoŭ na ahoń, a chvasty j zaśmiardzieli. Žonka, nia skončyŭšy dzicia karmić, padaje jaho mužu, a sama trasiecca dy imkniecca uciakać. Muž pałažyŭ dzicia, dy mocna jaje trymaje ŭ svajich rukach, a jana trasiecca dy vyryvajecca, kab uciačy. Potym ŭ jahonych rukach stała pieratvaracca ŭ roznych źviaroŭ. A nareščie, kali dahareli chvasty, jana pieratvaryłasia ŭ samuju siabie. Jana stała spakojnaja dy stała płakać dy dziakavać mužu, što vyratavaŭ jaje ad ciažkich pakutaŭ. Jej było ściudziona j soramna što była hołaja. Muž adzieŭ jej svaju chutru. Jana zabrała svajho chłopčyka-maładziona j pajšli da karety, dzie uśmichajučysia čakaŭ jich churman.

Kali kniaź z žonkaj i synam viarnulisia ŭ baćkavu chatu, dyk ubačyli strašnaje vidovišča Stareńki baćka stajić la stała j trasiecca ad strachu. Siarod chaty lažać niažyvyja i mačycha, i jejnaja dačka ŭ strašnym vyhladzie: nohi jich paskručvany ŭ viaroŭki, ruki pakryŭleny nazad, raty raziaŭlenyja z vysałaplenymi jazykami. Kniaź z žonkaj vyvieli baćku z chaty j stali pytacca, što tut parabiłasia. Baćka

staŭ jim apaviadać:

— My sieli pałudnavać, až maci kali splaśnie rukami, kali zalamanťuje: "Aj, chvasty harać!" Tady j dačka vyskačyła z zastolla dy abiedźvie stali krucicca pa chacie dy kryčeć: "Chvasty harać! Chvasty harać!" Paśla stali kačacca pa dole, piščeć. Jim sťała krucić nohi, kryŭlać ruki j tvary. Jany poŭzali j piščeli, pakul nie pakančalisia.

Kniaź z žonkaj i z synkom-maładzionam pajšli da karety. Jany zabrali z saboj i stareńkaha zončynaha baćku, dyj pajechali ŭ svoj palac. A toje miesca, dzie stajała dziedava chata, dzie zahinuła dziedava druhaja žonka-viedźma z svajej dačkoj, skroź ziamlu pravaliłasia. Na tym miescy stała bałota z rudaŭkami-prorvami.

## Vieničak šaś-šaś!.. a doŭbieńka stuk-stuk!..

žyli dzied i baba. Była ŭ jich dziaŭčynka. Baba pamiorła, dyk dzied ažaniŭsia i ŭziaŭ babu z dačkoj. Mačycha nia lubiła dziedavaj dački. Jana prymušała hetu dziaŭčynku ciažka pracavać; zaŭsiody łajała jaje j biła. Narešcie baba j kaža svajmu mužu: "Źviazi svaju dziaŭčynu ŭ les: niachaj jaje tam vaŭki źjaduć". Baćku było škoda svajej dački, ale jon bajaŭsia žonki, dyk i zhadziŭsia zavieźci svaju dziaŭčynku ŭ les. Adnaho razu baćka j kaža da hetaj dziaŭčynki: "Ja siońnia pajedu ŭ les, a kab mačycha tut ciabie nia kryŭdziła, dyk ja j ciabie zabiaru z saboj". Baćka zaproh kania, i jany pajechali. Pryjechaŭšy ŭ les, baćka zavioŭ dziaŭčynku ŭ lasnuju chatku, jakaja stajała ŭ łazie na kurynaj nazie, i kaža da dziaŭčynki: "Ty tut pasiadzi, pakul ja droŭ nasiaku, a tady ja ciabie pakliču, kali budu damoŭ jechać". Dziaŭčynka j zastałasia ŭ hetaj chatcy. Baćka vyjšaŭšy z chatki, pryviazaŭ da šastka, jaki visieŭ pry ścianie hetaj chatki, vieničak i doŭbieńku. Kali vietryk pavieje, dyk vieničak šastaje, a doŭbieńka stukaje ab ścianu chatki. A dziaŭčynka dumaje, što baśka drevy śsiakaje, dyk ťapor pa drevie stukaje, a liście na drevie šastaje. A baćka, pryviazaŭšy vieničak i doŭbieńku da šastka, pajechaŭ damoŭ. Užo stała j ciamnieć, a ŭsio vieničak šastaje, a doŭbieńka stukaje ab ścianu, a dziaŭčynka dumaje, što baćka siače. Jana vyšła z chatki j ubačyła, što vieničak šastaje, a doŭbieńka stukaje, a baćki nihdzie niama, dyk jej stała strašna, i jana sťała hukać:

— Chto ŭ lesie? Chto-o-o ŭ puščy?

— Prydzi-i-i ka mnie načavać!
— Budziem nočku karatać!
Ź lesu čujecca taŭsty miadźviedziaŭ hołas:
— Ja-a-a ŭ lesie! Ja-a-a ŭ puščy!
— Prydu-u-u k tabie načavać!
— Budziem nočku karatać!

Dziaŭčynka pierapałochałasia j schavałasia ŭ chatku. Až miadźviedź prysoŭ pad vakno chatki dyj kaža: "Dzieŭka-dziavica, rusa-kasica! Adčyni chatku!" Dziaŭčynka adčyniła chatku, a miadźviedź jiznoŭ kaža: "Dzieŭka-dziavica, rusa-kasica! Pierastaŭ łapku praz paroh!" Dziaŭčynka pierastaviła. "Pierastaŭ druhuju!" Jana pierastaviła j druhuju. "Pierastaŭ treciuju!" Dziaŭčynka pierastaviła treciuju. "Pierastaŭ i čaćviertuju!" Jana pierastaviła j čaćviertuju.

Kali miadźviedź prysoŭ u chatku, dyk zrazu palez na pieč hrecca dyj kaža:"Dzieŭka-dziavica rusa-kasica! Vary mnie viačeru!" — "Kali-ž u mianie niama z čaho varyć," kaža dziaŭčyna. — "Na klučyki j pahladzi ŭ mianie ŭ pravym vušku," kaža miadźviedź. Dziaŭčynka adamknuła miadźviedźiu pravaje vuška, až tam usiaho šmat: i krup, i sała, i soli. Dziaŭčynka stała miadźviedźiu varyć kašu na viačeru. Kali jana varyła, dyk myška vylezła z norki dyj prosie: "Dzieŭka-dziavica, rusa-kasica! Daj mnie choć kostačku ablizać!" Dziaŭčynka dała jej krup i sała. A miadźviedź pytaje: "Chto tam z taboj havora?" — "Myška!" adkazała dziaŭčynka". — "Daj jej łožkaj pa łbie!" — kaža miadźviedź. Dziaŭčynka vyciała łožkaj pa ziamli.

Dziaŭčynka navaryła miadźviedziu vializny harščok kašy, vyłažyła jaje ŭ vializnuju misku j padała miadźviedziu na pieč, a sama tolki harščok paskrabła. Miadźviedź zjeŭ kašu dyj kaža: "Dzieŭka-dziavica, rusa-kasica! Ściali mnie paścial!" — "Kali-ž niama čaho ścialić", kaža dziaŭčyna. A miadźviedź zahadvaje: "Rad kamieńnia, rad paleńnia, stupu pad hałavu, žarnami nakrycca!" Dziaŭčynka stała miadźviedziu ścialić paściel hetak, jak zahadvaŭ miadźviedź: rad kamieńnia, rad paleńnia, a stupu prykaciła pad hałavu. Miadźviedź źlez z piečy, daŭ dziaŭčynie klučyki j zahadaŭ usiu noč zvanić, sam źniaŭ žorny, loh na svaju paściel dy žarnami nakryŭsia. Dziaŭčyna zvonie klučykami la miadźviedzia, a myška padbiahaje dy cichańka šepča: "Daj mnie hetyja klučyki, ja budu zvanić, a sama padviarnisia pad hetaje dubovaje karyta j cichańka lažy. Myška ŭziała klučyki, biehaje pa ścianie dy zvonie. Miadźviedź pračchnuŭsia, staŭ brać kamieńnie j paleńnie z svaje paścieli dy kidać tudy, dzie klučyki zvanili. Nareščie kinuŭ i stupu, a potym i žorny, ale myška maleńkaja, dyk jon i nia moh u jaje łučyć. Myška ŭsio biehaje pa ścianie

dy zvonie, dyk miadźviedź zasnuŭ. Myška addała klučyki dziaŭčynie, a sama pabiehła ŭ svaju norku. Dziaŭčyna hetymi klučykami adamknuła levaje vucha miadźviedzia, až tam bieźlič roznaha bahaćcia: zołata, srybra, šaŭkovych sukienak, chutraŭ. Kali staŭ dzień, dyk dziaŭčynka vyjšła z chatki, až tam la chatki stajić kareta, a ŭ jaje zaprežanyja stajennyja koni. Dziaŭčynka ŭbrałasia ŭ tyja darahija sukni, zabrała z saboj usio toje bahaćcie, što znajšła u miadźviedziavym levym vyšku, sieła ŭ karetu j pajechała damoŭ.

Kali dzied zavioz svaju dačku ŭ les dyj tam pakinuŭ, dyk mačycha była rada. Jana spadziavałasia, što za noč jaje vaŭki źjeli. Ale dziedava dačka pryjechała ŭ załatoj karecie, na stajennych koniach, adzietaja ŭ šaŭkovyja sukni dyj niaźličonaha bahaćcia z saboj pryviazła. Jana doma raskazała, što ŭsio heta bahaćcie jej miadźviedź padaravaŭ.

Hetaha-ž samaha dnia baba zahadała dziedu, kab i jaje dačku zavioz u toj samy les, u tuju samuju chatku, kab i jejnaja dačka hetak chutka razbahacieła. Dzied zaproh kabyłu, pasadziŭ na voz babinu dačku j pavioz u les i pakinuŭ jaje u tej samaj chatcy. Babina dačka pasiadzieła ŭ hetaj chatcy da šeraj hadziny, a tady vyjšła stała klikać:

— Chto ŭ lesie? Chto-o-o ŭ puščy?
— Prydzi-i-i ka mnie načavać!
— Budziem nočku karatać!

Ź lesu čujecca taŭsty miadźviedziaŭ hołas:

— Ja-a-a ŭ lesie! Ja-a-a ŭ puščy!
— Prydu-u-u k tabie načavać!
— Budziem nočku karatać!

Dziaŭčyna čakaje pakul miadźviedź prydzie. Až jon pryšoŭ, stukaje ŭ vakno j kaža: "Dzieŭka-dziavica, rusa-kasica! Adčyni dźviery!" — "Jany nie zapiertyja!" kryčyć dziaŭčyna. — "Dzieŭka-dziavica, rusa-kasica! Pierastaŭ mnie łapku praz paroh", kaža miadźviedź. — "nia budu", — kaža dziaŭčyna. "Pierastaŭ druhuju" — "Navat i nia dumaju!" kaža jana. "Pierastaŭ treciuju!" — "Adčapisia ty!" — skazała sa złości. Miadźviedź ulez u chatu j palez na pieč hrecca. Jon trochi palažaŭ dyj kaža: "Dzieŭka-dziavicca, rusa-kasica! Vary mnie viačeru! — "A z čaho ja budu varyć?" — kryknuła dziaŭčyna. "Na klučyki j pahladzi ŭ mianie ŭ pravym vušku!" — kaža miadźviedź. Jana adamknuła pravaje vuška, nabrała krup, sała, masła, soli j stała viačeru varyć. Kali jana varyła viačeru, dyk myška vylezła z svajej norki j kaža da jaje: "Dzieŭka-dziavica, rusa-kasica! Daj mnie kostačku ablizać!" — Miadźviedź pytaje: "Chto tam u ciabie prosie?" — "Myška", — adkazała dziaŭčyna. "Vytni jej nažom pa łbie!" — Dziaŭčyna chacieła vytnuć myšcy na-

žom pa łbie, ale myška schavałasia ŭ norku. Dziaŭčyna zvaryła harščok kašy. Pierš sama najałasia, a što zastałosia, dyk toje padała miadźviedziu na pieč. Miadźviedź źjeŭ i nie najeŭsia, a potym kaža: "Dzieŭka-dziavica, rusa-kasica! Ściali mnie paściel!" — "A što ja słać budu?" — kryknuła dziaŭčyna. "Rad kamieńnia, rad paleńnia, stupu pad hałavu, a žarnami nakrycca", kaža miadźviedź. Dziaŭčyna pasłała jamu rad kamieńnia, rad paleńnia, stupu pad hałavu prykaciła. Miadźviedź źlez z piečy, daŭ dziaŭčynie klučyki j skazaŭ usiu noč zvanić, a sam źniaŭ žorny, loh na svaju paściel i žarnami nakryŭsia.

Dziaŭčyna zvonie klučykami, a miadźviedź pračchnuŭsia dy staŭ na jaje, kidać tym kamieńniem i paleńniem, što było ŭ jahonaj paścieli, i čysta jaje prybiŭ, a paśla jak kinuŭ na jaje stupu, dyk i zusim zabiŭ. Tady ŭstaŭ dy źjeŭ jaje, a tolki kości zastalisia. Źjeŭšy, pajšoŭ u les.

Doma maci hetaj dziaŭčyny rana ŭstała, vypaliła ŭ piečy j nahatavała śniadańnia: napiakła blinoŭ, pryhatavała vieraščaki dy čakaje, kali jejnaja dačka ŭ załatoj karecie pryjedzie damoŭ. Čakaj-pačakaj, a jaje niama j niama. Babie ŭžo nie ciarpicca, što hetak pozna dačka nie pryjaždžaje. Baba pasyłaje dzieda, kab jon schadziŭ u les i daviedaŭsia, čamu jana hetak doŭha nia jedzie. Dzied naviesiŭ zrebnuju torbu na plečy, siakieru zatknuŭ za pojas, uziaŭ kij u ruki dyj pajšoŭ hladzieć babinaj dački. Kali dzied pryjšoŭ u les dy zajšoŭ u tuju chatku, dzie jon pakinuŭ dziaŭčynu, až tam było pusta, a tolki na dole valalisia kości babinaj dački. Dzied paźbiraŭ hetyja kości ŭ torbu dyj pajšoŭ damoŭ.

Baba doma ŭsiaho napiakła j navaryła dy paziraje ŭ vakno ci nia jedzie jejnaja dačka ŭ załatoj karecie i ŭ šaŭkovych sukniach. U hety čas lažała pad stałom jichnaja rabieńkaja sučačka. Heta sučačka ŭstała, paciahnułasia, zabrachała j zavyła:

— Ciaŭ-ciaŭ! Dziedava dačka ŭ załatoj karecie pryjechała!

— Ciaŭ-ciaŭ! A babinaj dački ŭ torbie kości braždžać!

Baba kinuła pad stoł sučcy blin dyj kaža: "Na tabie blin, ale nia piej błahoj pieśni". A sučka źjeła blin dy znoŭ:

— Ciaŭ-ciaŭ! Dziedava dačka ŭ załatoj karecie pryjechała!

— Ciaŭ-ciaŭ! A babinaj dački ŭ torbie kości braždžać!

Baba tady chapiła kačarhu dy stała bić sučku j łajać: "Pajšła von, voŭčaje miasa". I pierabiła sučcy nahu. Sučka skača na troch nahach za dźviery dy znoŭ zavyła:

— Ciaŭ-ciaŭ! Dziedava dačka ŭ załatoj karecie pryjechała!

— Ciaŭ-ciaŭ! A babinaj dački ŭ torbie kości braždžać!

U hety čas chata adčyniajecca, i ŭłazie ŭ chatu dzied z poŭnaj

torbaj na plačach. A baba j kaža:

— Ja ciapier vieru, što maja dačuška šmat bahaćcia maje, bo vo j mnie poŭnuju torbu prysłała haścinca".

Dzied źnimaje torbu z plačej i vysypaje kości z torby dyj kaža:

— Voś tabie haściniec ad dački! —

# Кадук

Жыў дзед і баба. Яны жылі надта бедна. Вось аднаго разу дзед і кажа бабе: "Я пайду на чужыну, зараблю грошы, а як вярнуся, дык мы тады пабагацеем". Баба ня пускала яго йсьці, адмаўляла. Але дзед наважыў пайсьці, дый пайшоў. Дзед на чужыне папрацаваў некалькі гадоў, зарабіў грошы дый пайшоў дамоў.

Ішоў ён ды йшоў, і яму захацелася піць. Ён убачыў крынічку й пайшоў да яе. Дзед лёг на беражку ды стаў нагінацца, каб напіцца. Колькі ён ні гнуўся над крынічкай, дык вады не дастае, бо яго нехта трымае за бараду. Дзед крычыць‘ "Пусьці!" А нехта кажа: "Не, ня пушчу!" Дзед зноў крычыць: "Пусьці!" — А нехта кажа: "Не, ня пушчу!" Дзед трэцьці раз крычыць‘ "Пусьці!" — А нехта кажа: "А што ты мне дасі, калі я пушчу?" —Дзед аглянуўся, аж над ім стаіць кадук і трымае яго за бараду. Дзед пытае: "А што ты хочаш?" — "Аддай мне тое, чаго ты дома не пакінуў", — кажа кадук. Дзед падумаў, падумаў дый кажа: "А бяры сабе!" Калі ён гэтак сказаў, дык кадук пусьціў бараду. Дзед напіўся ды пайшоў дамоў.

Калі дзед прыйшоў дахаты, дык убачыў, што ў яго радзілася й падкачалася двое дзяцей: хлопчык і дзяўчынка. Дзед цяпер і дагадаўся, чаго ў яго прасіў кадук. Дзед сказаў бабе, што ў яго прасіў кадук таго, што ён не пакінуў дома, і што ён адказаў кадуку: "А бяры сабе!" Дзед і баба бядуюць, што некалі каудк прыйдзе па іхных дзяцей.

Неўзабаве дзед і баба даведаліся, што заўтра прыдзе кадук па іхных дзяцей. На другі дзень дзед і кажа бабе: "Трэба схаваць дзяцей!" — А баба кажа: "А дзе-ж мы іх схаваем?" — "Як, дзе? кажа дзед. Дзед падняў масьніцу (памасьціну) ў хаце дый кажа:

"Саджай сюды!" Баба туды пасадзіла дзяцей, а дзед закрыў масьніцу.

Прыбег кадук і стаў шукаць дзяцей. Ён шукаў, шукаў і не знайшоў. Падыходзе кадук да веніка й пытаеь "Венік, венік! Дзе тыя дзеці схаваны? — А венік адказвае: "А я не скажу!" — "А чаму ты ня скажаш?" пытае кадук. — "Бо я люблю свайго гаспадара. Мне тут добра. Я падмяту хату ды стаю сабе ў куточку," адказвае венік. Пасьля кадук прыйшоў да качаргі й пытае: "Качарга, качарга! Скажы, дзе тыя дзеці схаваны?" — "А я не скажу, дзе тыя дзеці схаваны, бо я шкадую сваіх гаспадароў. Я загарну жар ды стаю сабе ў качарэжніку", адказала качарга.

Кадук пайшоў да шматы й пытае: "Шмата, шмата! Скажы, дзе тыя дзеці схаваны?" — "А я скажу, дзе тыя дзеці схаваны", кажа шмата: "Мне тут нядобра жыць; мной пыл і бруд сьціраюць, я ніколі спакою ня маю, калі дзе нейкае паскудзтва зьявіцца, дык заўсёды мяне турбуюць. Разарві мяне на чатыры часткі й кінь. Дзе тыя часткі лягуць, дык там будуць тыя дзеці схаваны". Кадук разарваў тую шматку на чатыры часткі й кінуў. Тыя часткі шматы ляглі на тую масьніцу, зде былі дзеці схаваны. Кадук падняў масныцу, забраў дзяцей і панёс. Кадук пёр, пёр з тымі дзяцьмі, замарыўся, лёг адпачываць і заснуў.

Бачаць дзеці — бяжыць зайчык. Прыбягае да іх зайчык дый кажа: "Дзеці, дзеці! Куды вы папаліся да нячыстай сілы. Садзеціся вы на мяне, дык вы на мне ўцячыцё". — Дзеці селі на зайчыка. Зайчык зь імі бег і занёс іх далёка, далёка. Кадук ачхнуўся, паглядзеў, аж няма дзяцей. Ён кінуўся даганяць іх. Калі дагнаў, дык зайчыка разарваў, а дзяцей забраў ды панёс далёка, далёка. Ён замарыўся, лёг адпачываць і заснуў, а дзеці сядзяць.

Прыбягае да дзяцей ліска й кажа: "Дзеці, дзеці! Куды вы папаліся да нячыстай сілы. Садзецеся на мяне, дык я вас вынесу ад гэтага кадука". — Дзеці селі на ліску, дык яна й панеслася. Прачхнуўся кадук, аж няма дзяцей. Ён стаў нюхаць па сьлядох. Дагнаў ліску й разарваў яе, а дзяцей забраў ды панёс далей. Кадук бег, бег, замарыўся. Ён лёг адпачываць і заснуў, а дзеці засталіся сядзець каля яго.

Глядзяць дзеці, ажно бяжыць воўк. Ён і кажа‘ "Дзеці, дзеці! Куды вы папаліся да нячыстай сілы. Садзецеся на мяне, дык я вас вынесу ад гэтага кадука". — Дзеці селі на ваўка, дык ён іх і панёс. Кадук прачхнуўся, ажно няма дзяцей. Ён стаў нюхаць, нашоў сьляды й дагнаў ваўка. Ён ваўка разарваў, а дзяцей набіў і забраў з сабой. Кадук пёрся, пёрся зь дзяцьмі, замарыўся, лёг адпачыць і заснуў.

Глядзяць дзеці, аж бяжыць да іх мядзьведзь. Ён і кажа да дзяцей: "Дзеці, дзеці! Куды вы папаліся да нячыстай сілы. Садзецеся на мяне, дык я вас вынесу ад гэтага кадука. Дзеці селі на мядзьведзя, і ён іх панёс. Прачхнуўся кадук, аж няма дзяцей. Ён панюхаў, панюхаў зямлю ды пабег наўздагон за мядзьведзем. Кадук дагнаў мядзьведзя й разарваў яго, а дзяцей забраў з сабой. Бег, бег кадук, замарыўся, лёг адпачыць і заснуў.

Бяжыць леў і кажа да дзяцей: "Дзеці, дзеці! Куды вы папаліся ў рукі нячыстай сілы. Садзецеся на мяне, дык я вас вынесу". Дзеці селі на лева, і ён іх панёс. Прачхнуўся кадук, ажно няма дзяцей. Ён панюхаў і панёсься па сьлядох, дагнаў лева й разарваў яго. Дзяцей набіў, забраў з сабой і панёс далей. Ён бег, бег, замарыўся, лёг адпачываць і заснуў.

Глядзяць дзеці, ажно бяжыць барсук ды кажа да іх: "Дзеці, дзеці! Куды вы папаліся ў рукі нячыстай сілы. Садзеціся на мяне, дык я вас вынесу". А дзеці кажуць: "Ого, ты гэткі малы й нас вынесеш?" — Садзецеся барждж эй!" — кажа барсук. Дзеці селі. Барсук раз скочыў, дык да мора даскочыў; другі раз скочыў, — мора пераскочыў і выскачыў на поле. На тым полі ляжаў вялікі камень. Барсук як разьбегся ды як ударыцца ў гэты камень, дык зь яго зрабілася хата. Барсук і кажа дзецям: "Гэта будзе ваша хата, і вы будзеце ў ёй жыць. А цяпер вазьмеце мяне зарэжце, мяса пасалеце ды ешце, а костачкі зьбярэце ды закапайце каля хаты. На трэцьці дзень прыдзеце ды паглядзеце, дзе закапалі мае косьці." Яны гэтак і зрабілі. Барсука зарэзалі, мяса пасалілі, а костачкі сабралі й закапалі недалёка хаты.

Кадук прачхнуўся, ажно няма дзяцей. Ён, нюхаючы, дабег да мора. Як скочыў у мора, дык утапіўся.

Дзеці сталі жыць у хаце. На трэцьці дзень брат выйшаў з хаты, аж супроць вакна, дзе закапалі барсуковы косьці, вылазе зь зямлі стрэльба й хлеб. Ён хлеб прынёс у хату, а з стрэльбай пашоў на паляваньне.

Ідзе ён па полі, аж бяжыць зайчык. Хлопец нацэліўся страляць, аж зайчык кажа: "Стой, не страляй! Я буду табе ў вялікай прыгодзе. На табе зайчаня! Гадуй яго." Хлопец прынёс дамоў зайчаня й стаў яго гадаваць.

На другі дзень хлопец пайшоў ізноў на паляваньне, аж бача бяжыць ліска. Ён толькі нацэліўся страляць, ажно ліска кажа: "Стой, не страляй! Я буду табе ў вялікай прыгодзе. На табе лісяня! Гадуй яго!" Хлопец прынёс да хаты лісяня.

На трэці дзень ён пайшоў на паляваньне. Глядзіць, ажно бяжыць воўк. Ён толькі хацеў страляць, ажно воўк крычыць:

"Стой, не страляй! Я буду табе ў вялікай прыгодзе. На табе ваўчаня!" Ён прынёс дамоў і ваўчаня.

I на чацьверты дзень хлопец пайшоў на паляваньне, ажно стаіць мядзьведзь. Ён толькі хацеў страляць, ажно мядзьведзь крычыць: "Стой, не страляй! Я буду табе ў вялікай прыгодзе. На табе медзьведзяня." Ён прынёс дамоў і медзьведзяня.

На пяты дзень ізноў ідзе на паляваньне. Бача, ажно йдзе леў. Хлопец хацеў страляць, аж леў крычыць: "Стой, не страляй! Я буду табе ў вялікай прыгодзе. На табе леўчаня." Ён прынёс дамоў і леўчаня.

Усе гэтыя зьвяркі ў яго гадаваліся й заўсёды хадзілі за ім і дома й на паляваньні. Калі ён аднаго разу са сваімі зьвяркамі быў на паляваньні, дык да сястры нехта прыйшоў і кажа, каб брат ішоў у млын па муку, а за ім пабеглі й ягоныя зьвяркі.Хлопец набраў мукі ды пайшоў дамоў, а пра зьвяркоў і забыўся. Кадукі запёрлі зьвяркоў у млыне за дванацацю дзьвярыма. Хлопец прыйшоў дамоў і лёг спаць. Сплючы, ён сасьніў свайго барсука. Барсук яму й кажа ў сьне: "Ня журыся, хлопец, твае зьвяркі ўжо паламалі чацьвёра дзьвярэй." А потым ізноў кажа' "Твае зьвяркі ўжо паламалі шасьцёра дзьвярэй." Хлопец сьпіць, а барсук яму ізноў кажа: "Твае зьвяркі ўжо паламалі дванацацера дзьвярэй."

Калі зьвяркі яшчэ ня прыйшлі дамоў, да хлопца прыходзе нейкі кадук і кажа яму: "Распалі ў печы агонь." Хлопец стаў паліць агонь у печы. Ён то запале, то пагасе, то запале, то пагасе. Ён адцягваў час, бо чакаў, каб прыйшлі зьвяркі ды выратавалі яго. Але агонь у печы разгарэўся, дык кадук напёк свой палец на агні ды як стукнуў ім хлопцу ў лоб, дык палец там і застаўся, а хлопец памёр. А каб ягоныя зьвяркі яго не знайшлі, дык кадук усьцягнуў няжывога хлапца высака на дрэва.

Прыбеглі зьвяркі ды сталі шукаць свайго гаспадара. Яны шукалі, шукалі, але не знаёшлі. А потым сталі яго шукаць па сьлядох, дык знайшлі яго высака на дрэве. Зьвяркі зьнялі хлопца з дрэва й палажылі на зямлі. Яны сталі яго разглядаць і знайшлі ў ягоным лбе чортаў палец. Зьвяркі кажуць: "Зайчык, зайчык, вынь з лобу чортаў пальчык." Зайчык як стаў вымаць у хлопца з лобу чортаў пальчык, дык гэты пальчык як ударыўся зайчыку ў лоб, дык і забіў зайчыка, а сам ізноў ускочыў на тое самае месца ў лоб хлопца. Пасьля зьвяркі кажуць: "Мядзьведзь, мядзьведзь! Вынь ты з лобу чортаў палец." Мядзьведзь як стаў вымаць з лобу чортаў палец, дык палец выскачыў з хлопцавага лобу ды як ударыў мядзьведзю ў лоб, дык і забіў, а сам ізноў скочыў на

тое самае месца хлопцу ў лоб. Нарэшце леў стаў вымаць чортаў палец з хлопцавага лоба, дык гэты палец выскачыў з хлопцавага лобу ды ўдарыў у львіны лоб, але не забіў, а тады паляцеў назад у хлопцаў лоб. Потым лісіца-хітрыца стала вымаць чортаў палец. Яна выхапіла палец з хлопцавага лобу, а сама — за дрэва! А палец ударыўся ў дрэва, дык там і застаўся ў дрэве, а хлопец аджыў.

Калі хлопец устаў, ён паклікаў сваю сястру, забраў сваю стрэльбу й тых зьвяркоў, што засталіся жывымі, ды пайшоў на бацькаўшчыну.

# Радоўка

Жылі дзед і баба. У іх быў адзін малы сын. Дзед і баба памёрлі. Хлопчык застаўся сіратой. Ён жывіўся каля людзей сваей вёскі. Хлопчык, як вясковы пастух, харчаваўся па радоўцы ў кожнай хаце, а за гэта яго празвалі "Радоўка".

У вадно нейкае сьвята былі сабраўшыся мужчыны на вуліцы. У гэтую вёску прыйшоў за нейкай патрэбай чалавек, які ад іх жыў далёка ў лесе за балотам. Мужчыны й кажуць гэтаму далёкаму чалавеку: "Аднак у цябе дзяцей няма, дык ты забяры нашага Радоўку. Ён хлопец ужо немалы, дык з часам будзе табе памагаць у працы каля гаспадаркі. Гэты дзед згадзіўся ўзяць Радоўку за здольніка.

Радоўка вырас у гэтага дзеда вялікім і дужым дзяцюком. Ён кожнага досьвітку ўставаў рана й хадзіў у гумно малаціць збожжа. Радоўка заўважыў, што ягоны дзед кожнае раньне некуды ходзе. Каб дагледзець куды ходзе дзед, Радоўка часта сачыў праз шчырачку (шчэлінку) ў сьцяне. Аднаго разу Радоўка глядзіць праз шчырачку, аж дзед выйшаў з хаты, прыйшоў да гумна, узьлез на йгрушу, што расла за гумном, ды праз сук кульнуўся на зямлю. Калі ён толькі кульнуўся праз той сук, дык перавярнуўся ў ваўкалаку й пабег на поле. Аж адкуль ні вазьміся бяжыць да яго другі воўк. Гэтыя два воўкі пачалі рэзацца (кусацца) між сабой. Радоўка праз шчырачку бача, што чужы воўк перамагае таго ваўка, у якога перавярнуўся ягоны дзед. Радоўка

выскачыў з гумна, борзьдзенька ўскочыў на йгрушу ды перакуліўся праз той сук, што куляўся й дзед. Радоўка перавярнуўся ў ваўкалаку ды пабег бараніць дзеда-ваўкалаку. Два ваўкалакі —Радоўка й дзед перамаглі чужога ваўка ды вярнуліся да йгрушы. Дзед-ваўкалака ўскочыў на йгрушу й кульнуўся праз сук, дык на зямлю скочыў чалавекам. Радоўка-ваўкалака гэтаксама скочыў на йгрушу й кульнуўся праз той самы сук, дык на зямлю скочыў чалавекам. Дзед і кажа Радоўку: "Добра ты зрабіў, што памог мне абараніцца ад чужога ваўка. А цяпер я ў цябе нешта папытаю: "Ці хочаш ты жаніцца?" — "Хачу!" адказаў Радоўка. Дзед і кажа' "Вось калі ты хочаш жаніцца, дык ідзі на купальскую ноч да ракі. Туды прылятуць тры дзеўкі купацца, дык ты там і возьмеш сабе адну за жонку.

Прыйшло Купальле. Бабуля дала Радоўку ўбраньне для тэй дзеўкі, якую ён выбера за жонку, і сказала: "Ты йдзі да ракі загадзя й сядзь там у кусьце. Яны туды прылятаюць купацца на купальскую ноч кожнага году. Прылятуць яны качкамі, а калі сядуць на беразе, дык перавернуцца ў дзевак. Калі яны будуць разьдзявацца, дык дзьве паложаць свае сукенкі разам, а трэцяя асобна. Калі яны стануць купацца, дык ты нікому нічога не кажы ды забяры тую сукенку, што будзе ляжаць асобна. Дзеўка, пакупаўшыся, будзе ў цябе прасіць сваю сукенку, дык ты не давай, бо калі яна возьме ў цябе сваю сукенку, дык уцячэ ад цябе. Калі яна надзене гэтую сукенку, што я табе дала, дык прыдзе з табой сюды да нас і будзе з табой жыць.

Радоўка на Купальле адвячоркам пайшоў да ракі й схаваўся ў кустох. Калі сонца зайшло й стала цямнецца, дык ён бача, што лятуць тры качкі. Яны селі на беразе ракі й ператварыліся ў дзевак. Калі яны разьдзяваліся, дык дзьве палажылі свае сукенкі разам, а трэцяя асобна. Калі яны купаліся, дык Радоўка ўзяў тую сукенку, што ляжала асобна ды трымае ў руках. Тыя дзьве дзеўкі, што палажылі свае сукенкі разам, вылезьлі з вады, адзеліся, ператварыліся ў качак ды паляцелі. Трэцяя дзеўка сядзіць у вадзе. Доўга яна сядзела ды нарэшце пытае: "Хто ўзяў маю сукенку? Калі гэта дзеўка, дык будзе маей сястрой. Калі гэта стары мужчына, дык будзе маім бацькам. Калі гэта старая баба, дык будзе маей маткай. Калі гэта дзяцюк, дык будзе маім мужам" — Радоўка выскаквае з кустоў дый кажа: "Я забраў тваю сукенку." Тая дзеўка просіць: "Аддай мне маю сукенку, аддай, я адзенуся." — "Не, не аддам," кажа Радоўка. "Дык дай мне другое адзеньне," просіць дзеўка. Радоўка даў ей тую сукенку, што прынёс з дому. Дзеўка адзелася, і яны разам прышлі ў хату,

дзе жыў Радоўка.

Яны жывуць ды жывуць. У яе ўжо нарадзілася дзіця. Аднаго разу дзед ладзіўся йсьці ў вёску дый кажа Радоўку, каб ён не даваў жонцы тэй сукенкі, што забраў у яе ля ракі, бо калі яна яе надзене, дык уцячэ. Дзед пайшоў на вёску й там забавіўся. Дома засталіся ў хаце толькі Радоўка з жонкай. Жонка й кажа яму: "Дай мне хоць памераць тую сукенку, што ты забраў у мяне ля ракі, калі я купалася, бо я яе даўна надзявала. Ён зачыніў вокны, замкнуў дзьверы, а тады даў ей памераць ейную сукенку, што прынёс ад ракі. Яна надзела сукенку, падышла да дзьвярэй, выкінула зь дзьвярэй той калочак, што служыў заместа клямкі дзьверы зачыняць, ды праз тую дзірачку і ўцякла на двор, а тады сказала яму: "Калі ты мяне знайдзеш, тады я з табой жыць буду."

Дзед прышоў зь вёскі дый кажа: "Ну, што? Я табе казаў не даваць ей тэй сукенкі?" Радоўка кажа: "Я пайду ў сьвет шукаць яе." — "Дзе-ж ты яе знайдзеш?" кажа стары: "у лесе шмат зьвяроў, — яны гатовы цябе зьесьці." Радоўка наладзіўся дый пашоў у сьвет.

Ідзе ён дарогаю, аж бача тры чарты б'юцца. Ён і пытае: "За што вы б'яцёся?" Чарты адказваюць: "За боты скараходы й шапку хармазонку." Радоўка й кажа: "Я вам падзялю!" Чарты згадзіліся. Радоўка загадаў ім прынясьці на гару вялізны камень. Яны прынесьлі. Радоўка качнуў гэты камень з гары й кажа: "Каторы з вас першы дагоне й стрымае той камень, дык таму застануцца гэтыя рэчы." Чарты пабеглі даганяць той камень. Радоўка абуў боты скараходы, надзеў шапку хармазонку й пайшоў далей.

Радоўка зайшоў у нейкі далёкі лес. Там на палянцы былі дзьве хаты: адна новая, сьветлая, прыгожая, а другая старая, чорная, брыдкая. Ён зайшоў у лепшую хату. Бачыць — там нікога няма, але толькі акрайчык хлеба на стале. Ён трохі адрэзаў гэтага хлеба ды зьеў. Але гэты хлеб ня большае й ня меншае. Радоўка стаў у куточак ды стаіць, аж бача, што ў гэтай хаце ёсьць тры дзеўкі, і адна тая самая, што была ягонай жонкай. Гэтыя дзеўкі глянулі на хлеб дый кажуць: "Нехта наш хлеб еў." Радоўкава жонка здагадалася, што гэта напэўна ейны муж прыйшоў яе шукаць і загаманіла: "Вылазь!" Радоўка вылез. Яму жонка й кажа: "Калі хочаш тут жыць, дык жыві, а калі хочаш дома жыць, дык пойдзем дамоў." Радоўка сказаў: "Будзем тут жыць." — "Добра, будзем тут жыць!" сказала жонка: "Ты можаш тут усюды хадзіць, а толькі не заходзь вун у гэну чорную хату."

Ён там застаўся жыць. Усюды хадзіў, разглядаў, а нарэшце зайшоў у тую чорную хату, аб якой жонка папераджала, каб не заходзіў. Калі ён зайшоў у тую хату, дык убачыў, што там нехта вісіць. Той вісельнік крыкнуў: ”Радоўка! кінь на мяне саламінку!“ Радоўка кінуў на яго саламінку, дык той вісельнік аджыў і стаў вольным. Ён далей кажа: ”А цяпер кінь па саламінцы на маіх братоў.“ Радаўка кінуў па саламінцы й на другіх двух вісельнікаў, дык і тыя абодва аджылі й сталі вольныя. А гэта былі тыя тры чарты, што пабеглі камень даганяць, калі Радоўка качнуў той камень з Лысай Гары. ”А цяпер аддай нам тыя нашы рэчы, што забраў на Лысай Гарэ, калі мы пабеглі камень даганяць,“ сказаў адзін чорт, і забраў у яго боты-скараходы й шапку хармазонку. ”Калі хочаш тут жыць, дык жыві сабе, але жонка цяпер будзе не твая, але мая,“ сказаў чорт.

Гэтыя чарты былі зачараваныя. Тыя тры дзеўкі іх зачаравалі, бо яны гэтых дзевак пабралі за жонак і моцна зь іх зьдзекваліся. Але ў іх была такая ўмова, што калі чалавек на іх кіне па саламінцы, дык чары зь іх спадуць. Дзеўкі прыступілі на гэткую ўмову, бо спадзяваліся, што ў гэты лес ніякі чалавек ня прыдзе. А цяпер, калі Радоўка вызваліў гэтых чартоў ад чараў, дык яны гэтых дзевак пабяруць за жонак і будуць зь іх зьдзекавацца. Дык вось чорт і сказаў Радоўку, што ягоная жонка ўжо будзе чартовай жонкай.

Радоўка з жонкай надумаліся ўцякаць. Калі чарты прышлі ў ў тую хату, дзе жылі дзеўкі, ды Радоўкавай жонкі там не засталі, дык адзін чорт абуў боты-скараходы ды пайшоў даганяць Радоўку з жонкай. Калі чорт дагнаў Радоўку з жонкай, дык хацеў яго забіць, але ўспомніў, што Радоўка выратаваў яго ад пакут, дык дараваў яму й абаіх прывёў назад. Чорт прыказаў Радоўку, каб болей не ўцякаў. Яны ізноў тут жывуць. Ля гэтай хаты, дзе жыла Радоўкава жонка, чарты прывязалі на ланцугу аднаго чорта, каб ён вартаваў, каб Радоўка з жонкай другі раз не ўцякалі. Аднаго разу чарты прышлі да тэй хаты, дзе жылі дзеўкі, аж прывязаны чорт-вартаўнік тузаецца ды лапамі зямлю дзярэ. Яны й пытаюць: ”Чаго ты гэтак усхадзіўся?“ Ён і кажа, што Радоўка з жонкай уцяклі. — ”Уніміся, ня турбуйся! Яшчэ пасьпеем гарэлкі напіцца, у карты пагуляць і дагонім іх.“ Яны напіліся гарэлкі, пагулялі ў карты, а тады адзін чорт абуў боты-скараходы ды дагнаў Радоўку з жонкай, набіў іх дый папярэдзіў Радоўку: ”А за трэцім разам заб’ю, калі паспрабуеш уцякаць. Каб гэта было ўжо апошні раз!“ Калі яны прышлі дамоў, дык чорт яму й кажа: ”Ведаеш што. Калі хочаш, дык бяры стрэльбу

ды йдзі на паляваньне зьвяроў страляць.“ Радоўка ўзяў стрэльбу ды пайшоў на паляваньне. Але перад тым, як ісьці на паляваньне, Радоўка дамовіўся з жонкай, каб яшчэ паспробаваць уцякаць. Калі Радоўка пайшоў у лес, дык туды прышла й жонка, і яны сталі ўцякаць дамоў. Калі чарты прышлі да тэй хаты, дзе жыла Радоўкава жонка, ды не засталі яе дома, дык яны здагадаліся, што Радоўка з жонкай уцяклі. Яны аднаго чорта паслалі даганяць іх. Гэты чорт абуў боты-скараходы й дагнаў Радоўку з жонкай; Радоўку забіў, а жонку пабіў ды прывёў дамоў.

Даўна хадзіла па сьвеце шмат падарожнікаў. Тым часам ішлі праз той лес падарожнікі ды ўбачылі, што на дарозе ляжыць забіты чалавек. Адзін зь іх і кажа: “Гэта той Радоўка, што чорт забіў за жонку, калі ён з жонкай уцякалі дамоў.“ Другі кажа: ”У мяне ёсьць такое зельле, што калі памазаць ім няжывога чалавека, дык ён аджыве.“ Падарожнікі сталі прасіць свайго сябру, каб ён аджывіў Радоўку. Падарожнік памазаў Радоўку жывой вадой, дык ён аджыў. Радоўка шчыра падзякаваў падарожнікам ды пайшоў да жонкі.

Калі ён прышоў дамоў, і жонка яго ўбачыла, дык вельмі спужалася, што ён быў забіты, а цяпер жывы. Жонка яму сказала: ”Калі ты гэткі шчасьлівы, дык я цябе некуды пашлю. Ты йдзі дарогай, а калі ўбачыш, што каму будзе кепска, дык кожнаму памагай.“ Ён сабраўся дый пайшоў.

Ён ідзе дарогай, аж бача павук напаў на муху й душа. Ён абараніў муху й пайшоў далей. Ідзе ён ды йдзе, аж бача мурашкі гарэць. Ён загасіў мурашнік і пайшоў далей. Ён ішоў, ішоў, умарыўся й захацеў есьці. Ён падыйшоў да ракі, злавіў рака й хацеў яго есьці. Калі Радоўка адарваў адну клюшню, дык рак стаў прасіцца: ”Ня еш мяне, бо як будзе табе цяжка, дык я табе памагу.“ Ён пусьціў рака й пайшоў да жонкі.

Калі Радоўка прышоў да жонкі, дык яна яму сказала: ”Ты пойдзеш да ведзьмы. Яна табе загадае пасьціць тры кабылы. Ведзьма табе скажа, што калі ты ўпасеш тыя кабылы, дык возьмеш сабе адну з тых кабылаў, каторую захочаш. Але ты скажы: — Я нявартьі, каб мець вашу кабылу, але я бачыў у вас нейкага коніка, дык я буду прасіць, каб вы аддалі мне яго. — Ведзьма ня ведае, якую сілу мае той конік і аддасьць табе яго. Калі яна аддасьць табе яго, дык ты яго возьмеш і завядзеш за стог грэчкі. Як ён зьесьць той стог грэчкі, тады мы з табой на ім уцячом дамоў.“

Радоўка прышоў да ведзьмы, а ведзьма пытае: ”Ну, чаго хочаш?“ — ”Хачу вашы кабылы пасьціць!“ адказаў ён. ”Добра,

будзеш пасьціць,“ кажа ведзьма. А зьмей кажа: ”А калі не ўпасеш, дык я табе галаву зьніму.“ — ”Калі ўпасу, дык будзе добра, а калі не ўпасу, дык ты мне галаву зьнімеш,“ адказаў Радоўка.

Радоўка пагнаў кабылы пасьціць. Ведзьма дала яму з сабой на падполудзень блін. Калі ён пасьціў кабылы, дык яму захацелася есьці. Радоўка зьеў той блін. Яму захацелася спаць, і ён заснуў. Калі ён прачхнуўся, дык убачыў, што кабылаў няма. А яму ведзьма загадала прыганяць кабылы з пашы паўднём. Радоўка стаў плакаць, бо калі спозьніцца прыгнаць кабылы, дык зьмей яму галаву зьніме. Калі толькі ён уздумаў пра тую муху, што ён абараніў ад павука, дык чуе, што ад тупату коньськіх ног, зямля стогне, і бача, што да яго бягуць тыя кабылы, што ён пасьціў. Калі кабылы прыбеглі да яго, дык мухі зь іх асыпаліся, а між іх была й тая муха, што Радоўка абараніў ад павука, калі йшоў празь лес. Радоўка схапіў бярэзіну й пагнаў кабылы дамоў.

Калі ведзьма ўбачыла Радоўку дома, дык і пытае: ”А што, упасьціў?“ — ”Упасьціў,“ адказвае Радоўка. ”Добра!“ сказала ведзьма: ”А цяпер ідзі ў хату й наешся.“ Ведзьма стала біць кабылы, што не ўцякалі. Кабылы кажуць, што яны ўцякалі ў густы балотны лес, але там на іх напалі мухі, дык яны былі прымушаны вярнуцца да Радоўкі. А зьмей ім кажа: ”Глядзеце, каб болей не ўцякалі ў густы балотны лес, але ўцякайце ў бор.“ — Добра,“ адказалі кабылы.

Прышоў другі дзень. Радоўка ізноў пагнаў пасьціць кабылы. Ведзьма йзноў дала яму з сабой блін у торбу. Ён пасе кабылы. Калі яму захацелася есьці, дык зьеў той блін. Яго змарыў сон, і ён заснуў. Радоўка прачхнуўся й глядзіць, аж няма кабыл. Ужо хутка падойдзе час гнаць кабылы дамоў. Ён бядуе ды ўздумаў пра мурашкі. Чуе, аж зямля стогне, а гэта ягоныя кабылы бягуць, а на іх поўна мурашак. Калі кабылы прыбеглі да яго, дык тыя мурашкі асыпаліся зь іх. Ён за бярэзіну ды пагнаў кабылы дамоў. Калі зьмей убачыў, што Радоўка другі раз упасьціў кабылы, дык зазлаваў і на Радоўку й на кабылы. Ён на Радоўку сказаў: ”Ідзі ў хату!“ Прышла ведзьма й стала біць кабыл, што не ўцякалі. Кабылы сказалі: ”Мы ўцякалі ў бор, а там на нас напалі мурашкі, дык мы насілу ўцяклі.“ Зьмей ім кажа: ”Другім разам не ўцякайце ні ў бор, ні ў балота, а проста ў раку ў ваду.” — ”Добра,“ сказалі кабылы.

Радоўка на трэці дзень пагнаў пасьціць кабылы. Гэтаксама ведзьма дала яму з сабой блін у торбу. Калі яму захацелася есьці, дык зьеў той блін. Яго змарыў сон, і ён заснуў. Ён прачыхаецца й глядзіць, што кабылаў няма. Ён бядуе й плача, што

зьмей яму галаву зьніме, калі кабылы ня прыдуць. Аж уздумаў пра рака, якому ён некалі клюшню адарваў ды пусьціў у раку. Радоўка чуе, што зямля стогне ад моцнай тупаніны, аж гэта яго-ныя кабылы пруцца назад, а на іх ракаў поўна. Радоўка бача, аж тут і той рак, якому ён клюшню адламаў, калі хацеў есьці. Калі кабылы прыбеглі да яго, дык ракі зь іх асыпаліся. Ён за бярэзіну й пагнаў кабылы дамоў.

Зьмей убачыў Радоўку ўжо дома й думае: "Як гэта ён упасьціў гэтыя кабылы?" Ён кажа Радоўку' "Бяры сабе якую хочаш кабылу." А Радоўка яму адказвае: "Я ня варты ўзяць вашу кабылу. Я бачыў, што ў вас ёсьць нейкі хворы конік, дык я хачу вас прасіць, каб вы мне яго аддалі." Ведзьма рада, што Радоўка адмаўляецца ад кабылы, але просе гэтага здыхляка. Яна сказала: "Бяры сабе таго коніка." Радоўка забраў таго коніка, завёў яго за стог грэчкі ды прывязаў там. А прыз тыдзень прышоў і пабачыў гэтага коніка. Конік трохі паправіўся. Радоўка напаіў яго й даў аўса. Праз другі тыдзень ён зусім аправіўся. Гэты конік ня толькі шпарка бегаў па зямлі, але й лётаў па паветры.

Радоўка сеў на таго коніка ды паехаў да хаты, дзе жылі дзеўкі. Яны ўдваіх з жонкай селі на таго коніка й падняліся аж пад воблакі ды паехалі дамоў да свайго дзіцяці й гаспадароў.

Прыходзяць чарты да хаты, дзе жыла Радоўкава жонка, аж той чорт, што быў прывязаны на ланцузе за вартаўніка, лапамі зямлю дзярэ. Чарты ў яго пытаюць: "Чаго ты гэтак расхадзіўся?" Ён адказвае: "Радоўка забраў сваю жонку ды ўцёк." А чарты яму адказалі: "Яшчэ гарэлкі нап'ёмся, пагуляем у карты й Радоўку з жонкай дагонім." А прывязаны чорт адказвае: "Вы яго ніколі не дагоніце. Ён шпарчэй ветру паляцеў ды ўжо напэўна дома." Чарты кінуліся даганяць Радоўку, але нават сьледу не знайшлі.

Радоўка з жонкай на гэтым коніку заехалі аж да дзедавай хаты. Там апусьціліся на зямлю ды сталі жыць дома на гаспадарцы.

# Vaŭkałaka

Daŭna, daŭna, kali pa ŭsiej našaj ziamielcy lasy šumieli, na uźleśsi adnej puščy žyŭ pry svajej siamji chłopčyk, jaho zvali Klonik. Tut-

ža niedaloka pry kryžavych darohach u hajku žyła pry svajej matcy dziaŭčyna Ślima. Matka Ślimy była znacharka-čaraŭnica. Tut blizka jinšych dziaciej nia było, dyk Ślima j Klonik zmałku razam hulali, a potym razam i statak paścili. Klonik paściŭ svaje byčki j karoŭki, a Ślima paściła svaje kozy z kazianiatami. Klonika žartam pryzvali Projdzinym ziaciam. Jon nadta nia lubiŭ hetaj mianiuški j złavaŭ za heta. Jon navat pierastaŭ razam ź Ślimaj paścić statak.

Kali Klonik vyras na stałaha dziaciuka, dyk Projda chacieła,kab jon svataŭ jejnuju dačku Ślimu. Ale Klonik sam nie chacieŭ svatać Ślimy, a hetaksama hetaha nie chacieli j jahonyja baćki, bo maci Ślimy, Projda nie chacieła rabić raboty, a žyła hulniami dy ašukanstvam. Jana to čaravała, to adčaroŭvała, to varažyła, to zajmałasia chvalšyvymi lekami, to roznyja zamovy j zaklinańni rabiła. Da hetkich zaniatkaŭ i jejnaja dačka Ślima pryzvyčajvałasia. Voś za heta ŭsio Klonik i nie chacieŭ brać zamuž Ślimy. Jon pasvataŭ sabie dziaŭčynu z susiedniaj vioski dobraj radni, dobrych pracavitych baćkoŭ.

Kali Klonik zasvataŭ dziaŭčynu dy ŭ sybotu pierad samymi Dziadami jšoŭ da jaje na zmoviny j prachodziŭ kala Projdzinaj chatki, dyk Projda vyšła z chaty, padyjšła da jaho j kaža: "Nie chacieŭ ty svatać majej dački, dyk na tabie na pamiać ad jaje vo hety pajasok". Dy ŭziała j padpierazała tym pajaskom Klonika.

Paśla taho jak Projda padpierazała Kloniku hety pajasok, jamu zrabiłasia strašna, les žudasna šumieŭ. Jon sa strachu bieh niaviedama kudy. I noč nastała, a jon biažyć dy biažyć. A paśla zmaryŭsia, zvaliŭsia pad jalinku j zasnuŭ. Kali jon pračchnuŭsia, dyk byŭ užo druhi dzień. Jamu było młosna j mučyła smaha. Jon ubačyŭ vadu j papoŭz da jaje, kab napicca. Kali jon nahnuŭsia nad vadoŭ, kab napicca, dyk ad strachu až u vačču paciamnieła, bo jon siabie ŭbačyŭ u vadzie nie čałaviekam, ale vaŭkom. Tolki nia hetkim, jak usie vaŭki, bo jon byŭ biełym vaŭkom, a zamiesta ruk — łapy z kapciurami. Jamu stała vialikaja kryŭda j žal. Jon chacieŭ z žalu zapłakać i zakryčeć na ŭvieś śviet, ale zamiesta płaču, skarhi, pačułasia žudasnaje voŭčaje vyćcio. Jon sam spužaŭsia svajho hołasu. Ad strachu zabiŭsia ŭ hustyja kusty j praležaŭ tam try dni. Na čaćvierty dzień jaho prymusiŭ ustać strašenny hoład. Jon pajšoŭ šukać sabie pažyvy.

Vaŭkałaka patrochi staŭ zžyvacca z svajej dolaj. Letam jamu žyłosia trochi lapiej: jon to žabku złovie, to myšku, to ptušynaje hniaździečka znajdzie, to maładzieńkaha zajčyka dahonie. Najhoraj jamu žyłosia zimoj. Choładna: zub na zub nie papadaje. Zaŭsiody chadziŭ hałodny, duchi padciahnuŭšy, bo ciažka było što złavić. Adnaho razu jon ubačyŭ, što płojma vaŭkoŭ dzikaha kazła abkružyli dy razarvali.

Jon padskočyŭ tudy, bo dumaŭ, što niejkuju kosťačku ci kišački schapić. Kali ŭbačyli vaŭki jaho, biełaha vaŭka, dyk kinulisia na jaho j amal nie zajeli. Jon adtul nasiłu uciok. Letam prabavaŭ i na aviečak napadać. Ale jon jak ubača, jak pierapałochany pastušok až achrypnie ad kryku, dy biažyć za jim z kijem, dyk jaho apanuje žal, jon zavierniecca j pabiažyć u les. Za čas svajho voŭčaha žyćcia jon ŭsiaho nakaštavaŭsia. Navat ličyŭ za ščaście, kali pašancuje zdochłaj kaniaciny naješcisia. Hetak pražyŭ jon voŭčym žyćciom až try hady.

Adnej ranicy jon prybłukaŭsia až da svajej sialiby. Prysieŭ u lasočku za humnom i paziraje na svaju rodnuju haspadarku. Dym z komina jdzie: vidać u piečy palicca. Pach taki pryjemny naŭkoła razychodziŭsia, što ŭ jaho až ślinki paciakli dy bolš duchi padciahnuła. Padyšoŭ bližej da panadvorku, čuje skavarody ab prypiek braždžać, sała skvarycca ŭ piečy. Padyšoŭ da samaha panadvorku, až Łyska la piarekleci raściahnuŭsia — lažyć dy adpačyvaje. Vidać dobra paśniedaŭ, bo navat kala jaho pachniučyja kości valajucca, što jon nia zmoh źješci.

Vaŭkałaka ŭspomniŭ, što hetaha dnia byli Dziady. Usia jahonaja siamja sytna padjeŭšy, adpačyvaje. Syty sabaka hetaksama adpačyvaje, a jon hałodny. Jamu zdochłaj myški nie daviałosia znajści. Jon tak zažałavaŭ, što chacieŭ zaviarnucca dy pajšci ŭ les, kab nia bačyć u jakim ščaści znachodziacca jahonyja rodnyja, a jon sam hetki niaščasny.

Tut na panadvorku kala chaty byŭ harodčyk, adharodžany novym jałovym vysokim parkanam, a ŭ jim porkałasia dvoje sycieńkich parasiatak. Ubačyŭšy hetyja parasiatki, u biełaha vaŭka pieramianiłasia dumka: "Čaho mnie hałada? Ci-ž mnie siońnia nie Dziady?" — dumaje sabie. Jon praz panadvorak — skakiel! — u harodčyk dy na parasio. Parasio ŭ kryk. Łyska, jak skoča tudy, dy zavyŭ. Z chaty pavyskakvali z kačerhami, vilkami, siakierami. Skryp! — i začynili varoty ŭ bramie. Biednamu vaŭčku niama kudy ŭciakać. Adzin ratunak, dyk heta pieraskočyć praz parkan. Łyska rvie za ściehniaki, adna baba rychtujecca, kab vilkami ŭkałoć u bok, druhaja, kab kačarhoj vyciać pa hałavie. Rodny baćka stajić ź siakieraj u varotach harodčyka. Vaŭčok raz skoknuŭ na parkan, — advaliŭsia. Skoknuŭ druhi raz, — iznoŭ advaliŭsia. Treci raz jak skoknuŭ, dyk i pavis na parkanie. Jon mocna začapiŭsia žyvatom za jałovuju parkaninu, i ni tudy, i ni siudy. Až tut baćka padskakvaje z siakieraj i miarkuje vyciać pa hałavie. Vaŭčok tady kali strapianiecca, a niešta kali treśnie ŭ jaho na žyvacie, a z parkanu kali hopnie, ale nia voŭk, dy čałaviek. Łyska zapiščeŭ dy nazad. Ludzi pasłupianieli j hladziać. Što za prajava? Na parkanie visić parvany pajasok. Pad parkanam

lažyć hoły čałaviek. Jahony tvar i hałava abrosšyja. Sam uvieś chudy, tolki skura dy kości. Na jahonym ciele rany, siniaki dy strupy.

Pieršaja parušyła cišu haspadynia domu — matka Klonika. Jana jak zahałosie: "A moj-ža ty, synok! Heta-ž naš Klonik". Jaho padniali, pryviali ŭ chatu, pamyli, padstryhli j nadzieli čystuju bializnu. Kali Klonik adpačyŭ na piečy, dyk raskazaŭ, jak Projda padpierazała jamu toj pajasok, što parvany zastaŭsia na parkanie, i jak jamu pavodziłasia, kali byŭ vaŭkom.

Uviečary Klonik razam z usiej svajej radnioj spraŭlaŭ Dziady.

## Źmiej

My badaj-što ŭsie viedajem, što źmiej unočy nosie ludziam hrošy, abo zbožža, ale nia viedajem, jak pryłaščyć hetaha źmieja, kab jon nam nasiŭ hrošy abo zbožža. Ja skažu vam, što źmieja nia pryłaščyš, a volnych biezhaspadarnych źmiajoŭ zusim niama. Kali chto choča stacca bahatyrom, dyk treba vyhadavać svajho ŭłasnaha źmieja. Heta rabota prostaja, ale marudnaja. Kali ŭ vas viasnoj vyjduć piśklaty dy ŭdasca zusim čornieńki piavunok, dyk vy jaho puściecie na choŭlu j hadujcie jaho roŭna siem hadoŭ. Roŭno ŭ siem hadoŭ jon źniasie čornieńkaje jaječka navieličkі z hałubinaje. Vy biarycio hetaje jaječka j padviazvajcie sabie ci kamu jinšamu z vašaj siamji pad levuju pachu j nosicie jaho hetak roŭna siem hadoŭ. Roŭna ŭ siem hadoŭ z hetaha jaječka vyjdzie sapraŭdny źmiej. Jon vam moža nasić žyta, pšanicu, abo hrošy — što vy zachočacie. Charčavańnie jaho prostaje. Treba jamu štodnia piačy skavarodku jaješni.

Byŭ adzin haspadar, jaki chacieŭ zrabicca vialikim bahatyrom. Jon chavaŭ čornaha pieŭnia siem hadoŭ. Hety pievień roŭna ŭ siem hadoŭ źnios čornaje jaječka navieličkі z hałubinaje. Hasuadar padviazaŭ toje jaječka pad levuju pachu j pranasiŭ jaho roŭna siem hadoŭ, kali ź jaho vyšaŭ sapraŭdny źmiej. Hety haspadar piok štodnia skavarodku jaješni,a źmiej nasiŭ haspadaru štonočy kuču pšanicy. U haspadara byŭ parabak. Parabak zaŭvažyŭ, što haspadynia kožnaha dnia piače jaješniu, a haspadar viečaram niasie hetuju jaješniu ŭ humno. Kožnaj ranicy parabku zahadvajuć znosić z toku pšanicu. A pšanica kaliva ŭ kaliva, jak bob. A hetaj pšanicy kožnaj ranicy

namiarali blizu paŭbočki.

Parabak, viadoma, čužy siemianin, jon nia spryjaje svajmu haspadaru. Jon zamiesta taho, kab pajšci ŭ puniu spać, pajšoŭ u tok. Jaho cikaviła taja jaješnia, što haspadar kožnaha viečara nosie ŭ tok. Jon staŭ šnyryć u taku j znajšoŭ u viraji skavarodku jaješni. Jon hetuju jaješniu źjeŭ, a na skavarodku nakłaŭ pavučyńnia j što nia jošč horšaha brudu j pastaviŭ znoŭ u vieraju, a sam sieŭ u taku za sałomaj i pilnuje, što tam budzie rabicca. Roŭna ŭ poŭnač raptam aśviaciŭsia tok, a pšanica zhary na doł: "Džy!-džy!-džy!" I ŭznoŭ jaje hetkaja samaja kuča, jak i papiarednija dni byvała. Źmiej tady suniecca ŭ vieraju da skavarady, dzie stajała jaješnia, ale raptam krutnuŭsia adtul dy jak lapnie chvastom pa ścianie, dyk šuhanuŭ sini ahoń i achapiŭ usiu ścianu až pad ščyt. Sam źmiej — von z toku praz ščelinu nad varotami. Tok zahareŭsia. Parabak kulom z toku. hladzić, dzie źmiej dzieŭsia, o źmiej akruciŭsia niekalki razoŭ kala hareŭšaha toku, a potym apuściŭsia na doł dy pad aziarodam pieraviarnuŭsia ŭ duhu j staŭ, prypioršysia da rašatnia dy ciešycca z pažaru. Parabak padyšoŭ da aziarodaŭ, uziaŭ hetu duhu ŭ ruki j kaža: "Haryć tok, dyk niachaj haryć i duha" — dy j šybnuŭ hetu duhu ŭ vahoń.

Parabak razhnievaŭ źmieja, kali źjeŭ jahonuju jaješniu. Źmiej spaliŭ tok, a parabak spaliŭ i źmieja, jaki pieraviarnuŭsia ŭ duhu.

***